

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 32 (1131) 7 ЖНІЎНЯ 2013 г.**

## Слонімцы ўшанавалі памяць Міхала Валовіча

У вёсцы Парэчча Слонімскага раёна адбылося ўшанаванне аднаго з кіраўнікоў паўстання 1830-1831 гадоў супраць Расійскай імперыі Міхала Валовіча і яго паплечнікаў.

Падчас ушанавання на мемарыяльнай старой пліце, якая была пастаўлена ў 2003 годзе, адкрылі новую мармуровую пліту Міхалу Валовічу і яго паплечнікам-паўстанцам. Пліта была зроблена, дзякуючы фінансавай дапамозе гарадзенскага грамадскага актывіста Аляксандра Талерчыка, які родам з вёскі Парэчча, і які некалі напісаў і выдаў кнігу пра родную вёску і Міхала Валовіча.





Міхал Валовіч быў родам з вёскі Парэчча Слонімскага павету, ён там меў маёнтак і ўласную зямлю. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Беларусь была цалкам акупавана рускімі войскамі. На працягу няпоўных ста гадоў беларусы тройчы ўздымалі меч барацьбы супраць нацыянальнага ворага - Масквы. Адным з самых магутных было паўстанне 1830 - 1831 гадоў. Чынным яго ўдзельнікам быў 27-гадовы юнак са Слонімшчыны Міхал Валовіч. Лістападаўскае паўстанне 1830 года застала Міхала ў бацькоўскім доме. У той час, калі рускія войскі былі выгнаны з Польшчы, выступленне паўстанцаў у Беларусі ўжо распачыналася. Тут існаваў Цэнтральны камітэт па кіраўніцтву паўстаннем на Беларусі ў тагачаснай сталіцы - Вільні. Камітэт меў сувязь з варшаўскімі паўстанцамі і з кожным паветам. Паўстанцкі камітэт Слонімскага павету вылучыў сваім прадстаўніком Міхала Валовіча і накіраваў яго па дырэктывы ў Вільню. У хуткім часе Валовіч удзельнічае ў Грахоўскай бітве, за што атрымлівае сваю першую вайсковую ўзнагароду. Новы Народны ўрад Польшчы вырашае дапамагчы паўстаўшай Беларусі. Валовіч і Працлаўскі павінны былі сустрэць груз са зброяй у Паланзе. Пакуль яны дабраліся да Палангі, порт ужо быў захоплены рускімі. Палангу было вырашана ўзяць штурмам, сумесна з партызанскім аддзелам Яцэвіча. Штурм пачаўся 13 траўня 1831 года. Спачатку поспех быў на баку паўстанцаў, аднак да рускага гарнізона неўзабаве падаспела дапамога. Потым быў штурм Вільні, аднак авалодаць горадам не ўдалося. Валовіч у гэты час прымаў удзел у баях пад Шаўлямі, Душвентамі, Павендэнямі і Новым Месцам. За заслугі ў справе паўстання Валовіч і Працлаўскі былі ўзнагароджаны Цэнтральным урадам Польшчы Залатымі кавалерскімі крыжамі. А на Бацькаўшчыне, у адпаведнасці з загадам рускага цара, іх чакаў расстрэл...

Некаторы час Валовіч вымушаны быў знаходзіцца на чужыне. У Парыжы ён з паплечнікамі рыхтаваўся да новага паўстання. У пачатку сакавіка 1833 года група патрыётаў рушыла на Бацькаўшчыну. Валовіч хутка сфармаваў партызанскі аддзел. З мэтай здабыцця сродкаў на закупку зброі паўстанцы здзейснілі няўдалы напад на паштовую карэту з казёнными грашыма. Тым часам у Валовіча з'явілася магчымасць павялічыць свой аддзел, бо 10 траўня ў лес уцяклі 28 палонных паўстанцаў, якія разброілі свой канвой. Каб не дапусціць аб'яднання паўстанцаў, на іх пошукі было кінута звыш 10 тысяч салдат, паліцыянтаў і прыгонных сялян. Міхал Валовіч быў схоплены. На допытах трымаўся годна, праявіў выключную мужнасць, нічога не расказаў катам пра паўстанцкую арганізацыю. 21 ліпеня (2 жніўня па н.ст.) Міхал Валовіч быў павешаны ў Гародні. Пазней яго маці выкупіла цела сына і прывезла ў Парэчча. Міхала Валовіча пахавалі на мясцовых могілках каля ўніяцкай царквы. Яму паставілі помнік, які стаяў да таго часу, пакуль на Слонімшчыну не прыйшлі бальшавікі, якія ўсё знішчылі.

Вось і сёлета 3 жніўня ў вёску Парэчча, дзе нарадзіўся Міхал Валовіч, і дзе ўстаноўлены новы мемарыяльны знак паўстанцам, сабраліся яго земляки.

Мерапрыемства адкрыў кіраўнік слонімскай суполкі БХД Іван Бедка. Пасля выступіў кіраўнік Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл Іван Шэга, літаратар, гісторык і краязнавец Сяргей Чыгрын і іншыя прамоўцы. У сваіх выступленнях слонімцы прыгадвалі паўстанцаў 1830-1831 гадоў, казалі пра ўшанаванне памяці знакамітых людзей Бацькаўшчыны.

***Васіль Адамаў.***
*Беларускае Радыё Рацыя, Слонім.*
*Фота аўтара*


ISSN 2073-7033

## 90 гадоў з дня нараджэння Міколы Грынчыка

**Мікола Грынчык** (1 жніўня 1923, вёска Быцень, Івацэвіцкі раён, Берасцейская вобласць - 1999) - беларускі літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук. Прафесар. Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР (1977). Нарадзіўся ў сялянскай сям'і.З сакавіка 1943 г. - агентурны разведчык партызанскага атрада "Савецкая Беларусь" Берасцейскага злучэня, з ліпеня 1944 г. - у Савецкай Арміі, на фронце. Быў цяжка паранены. Пасля вайны працаваў загадчыкам Быценьскага раённага аддзела сацыяльнага забеспячэння. У 1952 г. скончыў літаратурны факультэт Гарадзенскага педагагічнага інстытута. Настаўнічаў на Гарадзеншчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР (1957), затым - навуковы супрацоўнік гэтага інстытута. З 1970 г. - загадчык кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Адначасова ў 1973-1985 гг. - галоўны рэдактар рэспубліканскага навуковага міжведамаснага зборніка "Беларуская літаратура". З 1980 г. - загадчык кафедры літаратуры Менскага інстытута культуры. Доктар філалагічных навук. Прафесар. Сябра СП СССР з 1971 г. Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР (1977). Актыўны сябар ТБМ. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені і медалямі.



У час працы загадчыкам кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта стварыў студэнцкую навуковую лабараторыю па фальклору, дзе збіраліся значныя фальклорныя матэрыялы, запісаныя студэнтамі і выкладчыкамі пад кіраўніцтвам прафесара М. Грынчыка ў час студэнцкіх практык і фальклорных экспедыцый. Лепшыя матэрыялы перадаваліся ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук або друкаваліся ў зборніку "Беларуская літаратура". Рэгулярна пад яго кіраўніцтвам праводзіліся канферэнцыі па праблемах рэгіянальнага пачатку ў фальклоры, мове і літаратуры. Даследаваў спецыфіку фальклору Гомельшчыны Стаяў ля вытокаў фальклярыстычнай школы ў ГДУ імя Ф. Скарыны.

Выступаў як крытык і літаратуразнавец з 1957 г. Аўтар манаграфій "Максім Багдановіч і народная паэзія" (1963), "Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрачніцкай паэзіі" (1969), "Шляхі беларускага вершаскладання" (1973), крытыка-біяграфічнага нарыса "Аркадзь Куляшоў" (1964), адзін з аўтараў "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" (1966), "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" (1969), "Истории белорусской дооктябрьской литературы" (1977), падручнікаў для студэнтаў філфака педінстытутаў "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. 1917-1940" (1981), "Гісторыя беларускай літаратуры. XIX - пачатак XX ст." (1981) і "Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд" (1985).

***Вікіпедыя.***

## У Рычарда Грушы юбілей



**Рычард Баляслававіч Груша** нарадзіўся 27 ліпеня 1963 г. у вёсцы Сцеркава Лідскага раёна. Скончыў Бердаўскую школу. Пасля заканчэння школы застаўся працаваць у родным калгасе "Бердаўка". Яго ўтрапёнае жаданне маляваць праяўлялася ўсюды і ва ўсім.

Кіраўніцтва калгаса, звярнула ўвагу на здольнасці маладога спецыяліста і накіравала вучыцца на гадавыя курсы мастакоў-афармляльнікаў, арганізаваныя Гарадзенскім аблвыканкамам пры метадычным цэнтры народнай творчасці, якія той паспяхова скончыў. Працаваў у калгасе ў якасці мастака-афармляльніка і адтуль быў прызваны служыць ва Ўзброеныя Сілы. У гэты ж перыяд Р. Груша паступіў на завочнае аддзяленне Маскоўскага народнага ўніверсітэта мастацтваў на аддзяленне станковага малюнка і жывапісу. Пасля пяцігадовага навучання паспяхова яго закончыў.

У 1993 годзе Р. Груша стварыў МП "Дызайн", якое займалася добраўпарадкаваннем горада, тэрыторыі, скевраў, у гэтым жа годзе ўстанаўліваў помнік Францішку Скарыну (аўтарам якога з'яўляецца малады скульптар Валяр'ян Янушкевіч) і выконваў добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол помніка.

У творчым багажы Рычарда Грушы больш за тысячу карцін, не адзін дзесятак памятных знакаў і манументальных кампазіцый.

А яшчэ Рычард груша - паэт, колькі год таму выйшла кніга песень на яго вершы "Беларуская зорка". Падрыхтаваны да друку зборнік вершаў.

Напярэдзе ў Р. Грушы шмат задум і планаў. Дык пажадаем яму поспехаў, бо ўсё, што ён робіць, робіць для Беларусі і па-беларуску, грунтоўна і адказна.





*Рэзалюцыя Шостага з'езду беларусаў свету*

# Беларуская мова - гарантыя захавання беларускай нацыі

Развітая мова - адзін з галоўных здабыткаў і галоўная пазнака сталасці любой нацыі. Наша родная мова мае тысячагадовую гісторыю. З XIII да XVII ст. яна была адзінай дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага. У XX ст., нягледзячы на бязлітасныя хвалі паланізацыі і русіфікацыі, беларуская мова зноў набыла статус дзяржаўнай.

Аднак пасля рэферэндуму 1995 года пра наданне рускай мове статусу другой дзяржаўнай беларуская мова яго практычна страціла.

Як лагічнае наступства перапіс насельніцтва 2009 г. засведчыў, што толькі 53% рэспандэнтаў назвалі беларускую мову роднай (73,6% - у 1999 г.). У 2008-2009 навучальным годзе школы з беларускай мовай навучання склалі ўсяго 18,4%, з рускай мовай - 74,4% ад агульнай колькасці. У 2013 г. у Беларусі па-беларуску навучаецца толькі 16% школьнікаў і 0,2 % студэнтаў. У месцах кампактнага пражывання беларусаў у замежжы за апошнія 20 гадоў не створана ніводнай новай беларускай школы. Праз адсутнасць вышэйшых навучальных установаў з поўным беларуска-моўным выкладаннем у бацькоў няма матывацыі падтрымліваць стварэнне беларускамоўных класаў і школ. На дзяржаўным радыё, тэлебачанні, у прэсе пануе руская мова. Пераважная большасць дзяржаўных чыноўнікаў не карыстаецца беларускай мовай. Такая сітуацыя ўзнікла найперш праз дзяржаўную палітыку ў дачыненні да роднай мовы тытульнай нацыі Беларусі.

І ўсё ж, нягледзячы на гэта, наша родная мова жыве і развіваецца. І непасрэдны абавязак дзяржавы - падтрымліваць яе.

Мы заклікаем беларускія ўлады:

1. У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь забяспечыць паўнавартаснае функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця.

2. Зрабіць неабходныя захады па падтрымцы наяўных, а таксама стварэнні новых беларускіх школ у замежжы, а таксама па павелічэнні колькасці беларускамоўных праграм для спадарожнікавага тэлевяшчання, бо беларусы, што нарадзіліся ў замежжы, не маюць шырокай магчымасці чуць родную мову.

Звяртаемся да ўсіх беларусаў у Рэспубліцы Беларусь і замежжы з заклікам штодзень актыўна выкарыстоўваць беларускую мову ва ўсіх сферах жыцця і дзейнасці. Ад нашай з вамі пазіцыі залежыць лёс беларускай мовы.

*Шосты з'езд беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".*
23-24 ліпеня 2013 г.
г. Мінск.

---

*Рэзалюцыя Шостага з'езду беларусаў свету*

# Пра захаванне гістарычна-культурнай спадчыны

Матэрыяльная спадчына беларускага народа - неад'емная частка беларускай культуры і нароўні з беларускай мовай ёсць асновай захавання і развіцця нацыі.

Каштоўныя аб'екты гістарычна-культурнай спадчыны існуюць і ў замежжы і нароўні з помнікамі ў Беларусі патрабуюць увагі і абароны з боку беларускай дзяржавы.

Дзяржаўная палітыка ў сферы аховы гістарычна-культурнай спадчыны ў адпаведнасці з Законам "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь" павінная грунтавацца на прызнанні гістарычна-культурнай спадчыны фактарам развіцця дзяржавы, адказнасці дзяржавы за захаванне гістарычна-культурнай спадчыны, захаванні і аднаўленні гістарычна-культурных каштоўнасцяў.

Нягледзячы на заканадаўча вызначаную дзяржаўную палітыку, з боку органаў дзяржаўнага кіравання і мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў адсутнічае паўнавартасны кантроль за выкананнем нарматыўна-прававых дакументаў у сферы аховы гістарычна-культурнай спадчыны, не вядзецца распрацоўка тэхнічных нарматыўных дакументаў, якія рэгулююць працы на помніках архітэктуры, скасаваны інстытут ліцэнзавання рэстаўрацыйна-аднаўленчых прац, адсутнічае на нацыянальным узроўні вытворчасць рэстаўрацыйных матэрыялаў, не праводзіцца падрыхтоўка спецыялістаў-рэстаўратараў розных накірункаў. Беларуская гістарычна-культурная спадчына ў замежжы фактычна ігнаруецца дзяржавай.

Нявырашанасць гэтых праблем прыводзіць да трансфармацыі і дэградацыі не толькі гістарычна-культурных аб'ектаў, але цэлых культурных ландшафтаў, якія ёсць неад'емным этнатворчым і культуратворчым фактарам, што ў перспектыве размывае яшчэ не да канца сфармаваную беларускую нацыянальную ідэнтычнасць.

Для паўнавартаснага захавання і аднаўлення аб'ектаў гістарычна-культурнай спадчыны заклікаем Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Камітэт дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь:

- Не дапускаць дзеянняў, скіраваных на неабгрунтаванае скарачэнне Дзяржаўнага спісу гістарычна-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.
- Не дапускаць распрацоўкі і ўзгаднення навукова неабгрунтаванай навукова-праектнай дакументацыі для правядзення прац на помніках архітэктуры.
- Ініцыяваць распрацоўку і далейшае зацвярджэнне тэхнічных дакументаў па распрацоўцы навукова-праектнай дакументацыі і правядзенні рэстаўрацыйна-аднаўленчых прац.
- Разгледзець магчымасць стварэння Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гістарычна-культурнай спадчыны і Камітэта па рэстаўрацыі.
- Аднавіць інстытут ліцэнзавання рэстаўрацыйных прац.
- Наладзіць вытворчасць рэстаўрацыйных будаўнічых матэрыялаў.
- Звярнуць увагу на дасканалае выкананне Закона "Аб пахаваннях і пахавальнай справе ў Рэспубліцы Беларусь" для своечасовага захавання і добраўпарадкавання вайсковых і гістарычных могілак.
- Прыкласці намаганні па ўсталяванні помнікаў, мемарыяльных знакаў гістарычным дзеячам і выбітным асобам у гісторыі Беларусі, якія прадугледжаны Зводным планам устаноўкі манументальных збудаванняў у Рэспубліцы Беларусь, распрацаваным у 2009 г.
- Шырока прыцягваць профільныя грамадскія аб'яднанні і незалежных спецыялістаў да вырашэння праблем аховы гістарычна-культурнай спадчыны як у Беларусі, так і за яе межамі.

*Шосты з'езд беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".*
23-24 ліпеня 2013 г.
г. Мінск.

---

*Рэзалюцыя Шостага з'езду беларусаў свету*

# Пра транслітарацыю найменняў беларускіх геаграфічных аб'ектаў

Асобы і арганізацыі, якія займаюцца беларускай праблематыкай ці ў сваёй дзейнасці звязаныя з Рэспублікай Беларусь, сутыкаюцца з транслітарацыяй геаграфічных назваў Беларусі ў розных сферах. Дзякуючы высілкам дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь у "Інструкцыі па транслітарацыі геаграфічных назваў у Рэспубліцы Беларусь літарамі лацінскага алфавіту" замацаваная перадача геаграфічных назваў з беларускай мовы беларускай лацінкай, што мае гістарычнае абгрунтаванне і з 2012 г. афіцыйна прынятая 10-й Канферэнцыяй ААН па стандартызацыі геаграфічных назваў для міжнароднага выкарыстання.

На практыцы ў гэтай сферы адсутнічае адзіны падыход. У выніку назіраецца даволі распаўсюджаная праблема, калі транслітарацыя адной і той жа беларускай геаграфічнай назвы можа адбывацца па-рознаму, а выкарыстаныя пры гэтым спосабы ніяк не ўнармаваныя альбо грунтуюцца на састарэлых падыходах.

Падтрымка высілкаў беларускай дзяржавы ў гэтым накірунку з боку грамадства як унутры, так і па-за межамі Беларусі дазволіць не толькі вырашыць праблему, але і дапаможа падвысіць візуальна распазнавальнасць і адметнасць беларускай культуры.

Вітаючы захады Рэспублікі Беларусь, зробленыя на міжнародным узроўні і ў самой Беларусі па адзіным дзяржаўным уліку і выкарыстанні найменняў геаграфічных аб'ектаў,

заклікаем:

- Дзяржаўныя органы Рэспублікі Беларусь - і надалей спрыяць распаўсюджванню прынятай сістэмы транслітарацыі (беларускай лацінкай) геаграфічных назваў Беларусі і кантраляваць належнае яе выкананне ў картаграфічных, турыстычных і іншых афіцыйных дакументах і публікацыях для міжнароднага і ўнутранага карыстання.
- Суб'екты гаспадарання Рэспублікі Беларусь - прывесці ў адпаведнасць з ухваленай для міжнароднага выкарыстання сістэмай транслітарацыі беларускіх геаграфічных назваў свае афіцыйныя дакументы і маркіроўку прадукцыі.
- Замежныя дзяржавы і суб'екты гаспадарання - у сваіх картаграфічных, турыстычных, іншых афіцыйных дакументах і публікацыях, датычных геаграфічных назваў, трымацца ўхваленай для міжнароднага выкарыстання сістэмы транслітарацыі беларускіх геаграфічных назваў, распрацаванай Дзяржаўным камітэтам па маёмасці Рэспублікі Беларусь.

*Шосты з'езд беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".*
23-24 ліпеня 2013 г.
г. Мінск.

---

# ЗВАРОТ

## да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага сходу, Ураду пра стварэнне заканадаўчай і нарматыўна-прававой асновы для ўзаемадзеяння з беларусамі замежжа

Больш за 3,5 мільёна беларусаў пражываюць за межамі Беларусі. У больш чым 20-ці краінах свету дзейнічае звыш 200 беларускіх арганізацый і асяродкаў.

Адсутнасць заканадаўчай і нарматыўна-прававой асновы ўзаемадзеяння нашай дзяржавы з беларусамі замежжа не толькі паскарае асіміляцыйныя працэсы і ставіць пад пагрозу прысутнасць беларускай нацыі ў свеце, але і абмяжоўвае палітычныя, культурныя і эканамічныя магчымасці развіцця Беларусі.

Пачынаючы з Першага з'езду беларусаў свету (1993 г.) на даручэнне шматлікіх арганізацый беларусаў замежжа МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ставіла пытанне пра неабходнасць прыняцця закона "Аб беларусах замежжа".

Усе суседнія краіны маюць заканадаўчыя акты, скіраваныя на падтрымку і супрацоўніцтва са сваімі дыяспарамі, што прыносіць станоўчыя вынікі для іх.

МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" адзначае крокі дзяржаўных органаў Беларусі па актывізацыі працы над праектам згаданага закона пасля Пятага з'езду беларусаў свету (у 2009 г.), аднак лічыць, што гэты працэс патрабуе рашучага паскарэння і завяршэння.

У адпаведнасці з рашэннямі Першага (1993 г.), Другога (1997 г.), Трэцяга (2001 г.), Чацвёртага (2005 г.), Пятага (2009 г.) з'ездаў беларусаў свету мы, дэлегаты Шостага з'езду МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", звяртаем увагу на тое, што за больш, чым 20 гадоў так і не створаная заканадаўчая і нарматыўна-прававая аснова для ўзаемадзеяння са шматмільённай беларускай дыяспарай:

1) не прынятыя закон "Аб беларусах замежжа", не распрацаваны і заканадаўча не замацаваны статус "беларус замежжа";

2) не прынятая дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце" ;

3) не створаны ва Урадзе Рэспублікі Беларусь Дзяржаўны камітэт па справах беларусаў замежжа;

4) не створаная ў парламенце Камісія па справах беларусаў замежжа;

5) не створаны ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі навуковы цэнтр па вывучэнні беларускай дыяспары.

Невыкарыстанне найбагацейшага патэнцыялу беларускай дыяспары прыносіць вялікія страты дзяржаўным інтарэсам Рэспублікі Беларусь і ўсёй беларускай нацыі.

Заклікаем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны сход, Урад паскорыць прыняцце закона "Аб беларусах замежжа" і Дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце" і ажыццявіць астатнія неабходныя арганізацыйныя захады для захавання і развіцця беларускага замежжа.

*Шосты з'езд беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".*
23-24 ліпеня 2013 г.
г. Мінск.

*Заява дэлегатаў Шостага з'езду беларусаў свету*

# Аб акце добрай волі

Натуральным ёсць клопат беларусаў за будучыню сваёй краіны. У кожным грамадстве такіх людзей называюць патрыётамі і паважаюць і шануюць іх.

Натуральным ёсць і тое, што не ўсё грамадства аднолькава ацэньвае розныя дзеянні ўладаў, найперш тыя, якія датычаць пытанняў унутранай і замежнай палітыкі, перспектываў захавання незалежнасці краіны.

Моцная ўлада, перакананая ў сваёй рацыі, вядзе дыялог са сваімі палітычнымі апанентамі. На жаль, у Беларусі і сёння ёсць асобы, пазбаўленыя свабоды за свае палітычныя перакананні, што не супадаюць з афіцыйнай думкай, і не маюць магчымасці ўдзельнічаць у такім дыялогу. Беларуская і міжнародная грамадскасць называе такіх людзей палітычнымі зняволенымі - яны не зрабілі ніякага злачынства і пакараныя толькі за тое, што бачаць іншыя шляхі развіцця сваёй Бацькаўшчыны і маюць канстытуцыйнае права выказваць свае перакананні.

У пабудове моцнай і незалежнай Беларусі важнае адзінства нацыі, разуменне ўсімі грамадзянамі каштоўнасцяў дэмакратыі і суверэнітэту. Улада павінная аб'ядноўваць людзей, быць справядлівай і добразычлівай да ўсіх грамадзян краіны незалежна ад іх палітычных поглядаў. Жорсткасць не стварае, а разбурае.

Мы заклікаем улады Беларусі здзейсніць акт добрай волі і вызваліць з месцаў зняволення асобаў, якія знаходзяцца там за свае палітычныя перакананні. Мы ўпэўненыя, што такія дзеянні кіраўніцтва краіны будуць станоўча ацэненыя грамадскасцю Беларусі і міжнароднай супольнасцю.

***Шосты з'езд беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".***
23-24 ліпеня 2013 г.
г. Мінск.

# *ВЫНІКОВАЯ РЭЗАЛЮЦЫЯ*
## *дэлегатаў Шостага з'езду беларусаў свету*

Шосты раз беларусы свету сабраліся, каб абмеркаваць надзённыя праблемы развіцця сваёй нацыі і дзяржавы. Наша пазіцыя ясна акрэсленая: беларуская дзяржаўнасць мае больш чым 1000-гадовую гісторыю, і гэта дазваляе нам упэўнена сцвярджаць, што Беларусь была, ёсць і будзе!

Мы, удзельнікі VI З'езду беларусаў свету, незалежна ад месца пражывання, веравызнання і палітычных поглядаў, падводзячы вынікі абмеркавання выклікаў, што ставіць перад беларускай нацыяй эпоха глабалізацыі, заяўляем:

- Толькі самі беларусы могуць захаваць сваю нацыю, умацаваць і развіць нацыянальную дзяржаву.

- Нацыянальная ідэнтычнасць - апірышча развіцця беларускага народа. Яе ўмацаванне магчымае толькі супольнымі дзеяннямі беларусаў у Беларусі і замежжы.

- Мова - найважнейшая аснова нацыянальнай самабытнасці, галоўны фактар захавання беларускай нацыі і дзяржавы. На жаль, сённяшняя палітыка ўладаў у дачыненні да мовы карэннай нацыі вядзе да зменшэння яе ролі ў грамадскім, палітычным і культурным жыцці. Мы рашуча выказваемся за строгае выкананне заканадаўства што да дзяржаўнага статусу беларускай мовы і прыняцце стратэгічнай праграмы яе развіцця і выкарыстання ва ўсіх сферах жыцця.

- Нацыянальная самасвядомасць і нацыянальная памяць наўпрост звязаныя з гістарычнай нацыянальнай сімволікай. Сімвалы беларускага народа - герб "Пагоня" і бела-чырвона-белы сцяг - дадзеныя нам продкамі, і ніхто не мае права забараняць або адмяняць іх. Дэлегаты з'езду выказваюцца за тое, каб бела-чырвона-белы сцяг, як і старажытны герб "Пагоня", былі ўключаныя ў пералік нацыянальна-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

- Адзначаючы значныя дасягненні ў адраджэнні нацыянальна-культурнай спадчыны за гады незалежнасці нашай дзяржавы, звяртаем увагу Ураду Рэспублікі Беларусь на неабходнасць уважліва ставіцца да захавання ўсіх гістарычна-культурных каштоўнасцяў роднай зямлі, не дапускаць выключэння іх з Дзяржаўнага спісу пад ціскам інтарэсаў антыбеларускіх сілаў, прадстаўнікоў кампрадорскага чынавенства ці новай буржуазіі.

- Звяртаем увагу кіраўніцтва дзяржавы на неабходнасць у найбліжэйшы час стварыць заканадаўчую і нарматыўна-прававую базу для працы з суайчыннікамі за мяжой, што, несумненна, паспрые росквіту беларускай справы на Бацькаўшчыне і ва ўсім свеце.

Заклікаем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Урад і Нацыянальны сход улічыць гэтыя прапановы.

***Шосты з'езд беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".***
23-24 ліпеня 2013 г.
г. Мінск.

# Цікавая прэзентацыя

20 ліпеня 2013 года ў Лунінецкай раённай бібліятэцы адбылася сустрэча з баранавіцкай паэткай Галінай Ліс, якая напісала цудоўную кнігу "Валошкавыя мары..".

Галіна нарадзілася 14 студзеня 1964 года ў вёсцы Багданаўка Берасцейскай вобласці. У 1981 годзе скончыла Маладзечанскі ўлікова-планавы тэхнікум, а пасля - навучанне ў Гомельскім кааператыўным інстытуце. З 1987 года працавала ў Баранавіцкім гаркаапандлі галоўным бухгалтарам. Зараз дырэктар фірмы "ЮГ ЛІС".

Вельмі любіць пісаць вершы і прысвячаць іх родным і сябрам! Піша карціны Вершы яе друкаваліся ў калектыўным зборніку "Дыханнем адзіным" і ў 2-ім томе сучаснай літаратуры Беларусі "Паэзія 2010". Друкавалася ў баранавіцкай газеце "Наш край".

На мерапрыемстве выступілі Раіса Раманчук, Міхась Маліноўскі, Алесь Корнеў, бард Сяргей Карповіч.

Таксама было цікава паслухаць лунінецкіх творцаў: Вадзіма Жылко, Людмілу Хмялеўскую, Сцяпана Нефідовіча, Віктара Філатава, Тацціяну Качаноўскую і іншых.

Панавала творчая атмасфера. Было вельмі цікава. Баранавіцкая і лунінецкія творцы абмяняліся думкамі пра сучасную літаратуру. Чыталі вершы і прозу.



***Аляксей Шалахоўскі.***
*Менск-Лунінец -Менск.*

# "ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ"

Акадэмік В.У. Вінаградаў у сваёй капітальнай працы "Русский язык: грамматическое учение о слове" (1947) на старонках 744-760 грунтоўна аналізуе выклічнікі, паказвае, што яны рэзка адрозніваюцца ад паўназначных і службовых часцін мовы, піша, што хоць яны і не валодаюць намінатыўнай функцыяй, не называюць што-небудзь, але "маюць усвядомлены калектывам сэнсавы змест". Адзначаецца, што ў лексіка-граматычны клас выклічнікаў уваходзяць не толькі нязменныя словы, якія выражаюць розныя пачуцці і валявыя пабуджэнні (тыпу: *ой, ах, ага, ого, дзякуй, алё, гвалт*), але і "цэласныя выказванні", "эквіваленты сказаў", і што клас выклічнікаў "усё больш і больш папаўняецца фразеалагічнымі адзінствамі і зрашчэннямі".

Такіх выклічнікавых фразеалагізмаў, "эквівалентаў сказа", у беларускай літаратурнай мове больш як 180: *а ўсё ж такі яна рухаецца, памагай бог, хавайся ў бульбу* і г. д. Як ужо гаварылася, кожны з іх мае "ўсвядомлены калектывам сэнсавы змест". Так, выраз *вецер у спіну* мы ўжываем як шчырае пажаданне шчаслівай дарогі каму-небудзь, а *ціпун на язык* - як рэзкае асуджэнне чыйго-небудзь недарэчнага выказвання, як нядобрае пажаданне таму, хто кажа не тое, што трэба; *чым хата багата* - выказванне ветлівага запрашэння паесці, перакусіць, шчыра падзяліцца з кім-небудзь тым, што ёсць у гаспадара.

Адны з такіх фразеалагізмаў выражаюць добразычлівасць, павагу, пажаданне дабра і інш., другія - незадаволенасць, абурэнне, катэгарычную нязгоду, адмаўленне і г. д.: *ведай нашых, вось табе і маеш, крый бог, ну і ну, у добры час, хлеб ды соль* і шмат іншых. Выражэнне пэўных эмоцый у вусным маўленні нярэдка суправаджаецца мімікай, спецыфічнай інтанацыяй, часам выдзяленнем аднаго з кампанентаў лагічным націскам: *на табе, чорта з два*. Некаторыя з выклічнікавых выразаў (напрыклад: *авохці мне, вось табе і раз, чорт вазьмі*) поліафектыўныя: імі, вр'іруючы інтанацыю, выказваюць то здзіўленне, то захапленне, то страх, спачуванне, абурэнне і інш.

Да ліку выклічнікавых фразеалагізмаў, сінтаксічна суаднесных са сказам, варта аднесці і вядомы сёння амаль кожнаму беларусу выраз "Жыве Беларусь!" Гэта векліч веры, надзеі, спадзявання, жадання, каб наша Радзіма стала сапраўды вольнай, незалежнай, дэмакратычнай. Ён асабліва актыўна стаў ужывацца ў канцы 80-х - пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Гэты нацыянальны кліч, як пісаў у 1993 годзе Вячаслаў Рагойша (укладальнік кнігі: *Янка Купала. Жыве Беларусь*), "гучыць сёння ў канцы розных афіцыйных выступленняў, на ўрачыстых вечарах, сходах, у зале Вярхоўнага Савета незалежнай Рэспублікі Беларусь".

Ён вымаўляецца з лагічным націскам на першым кампаненце, часам суправаджаецца пэўным жэстам - падняццем правай далоні. У гэтым выразе, як і ў многіх іншых выклічнікавых фразеалагізмах, інтанацыйная асаблівасці, экспрэсіўная афарбаванасць, "маторна-мімічнае суправаджэнне" складаюць "надзвычай важкі бок яго сэнсавага ладу" (В.У. Вінаградаў). Зрэшты, у сэнсавым змесце гэтага выразу яго кампаненты, асабліва апошні, не пазбаўленыя сэнсаўтваральнай функцыі.

Выраз скарыстоўваецца ў разнастайных маўленчых сітуацыях, у тым ліку як прывітальны вокліч пры сустрэчы з сябрам або як развітальны. Так, у аповесці Барыса Пятровіча "Спачатку была цемра" чытаем: *Развіталіся яны словамі: "Жыве Беларусь!" Ён ішоў дамоў і згадваў, што менавіта гэтыя словы ён бачыў раней надрапаныя ў адной гомельскай тэлефоннай будцы, але тады і не здагадваўся яшчэ, што яны азначаюць.*

Як выгук патрыятычнага ўздыму выраз ужываўся (і цяпер ужываецца) падчас вулічных дэманстрацый і іншых акцый: *Ад бел-чырвона-белых сцягоў рабілася на душы ўзвышана і светла. Над натоўпам, над праспектам лунала гучна, магутна: "Жыве Беларусь!"* (А. Світка).

Калі выраз скарыстоўваецца як вітальны вокліч, то суразмоўнік адказвае паўтарэннем толькі першага слова: *- Жыве Беларусь! - Жыве!* Гэта ў пэўнай ступені асацыюецца са славутым паролем паўстанцаў Кастуся Каліноўскага: *- Каго любіш? - Люблю Беларусь! - То ўзаемна.*

У некалькі іншай сітуацыі выраз ужыты ў апавяданні В. Быкава "На чорных лядах". Тут слуцкі паўстанец перад адыходам у іншы свет выгуквае: *- Жыве Беларусь! - Жыве, - нечакана слабым галасам азваўся камандзір...*

Адначасова гэты выраз - і дэвіз, і лозунг. С. Букчын у эсэ "Дзень нараджэння караля" піша: *Карл XVI Густаў ужо сорак гадоў на троне. Яго дэвіз "За Швецыю - ва ўсе часы!" Амаль як "Жыве Беларусь!" Толькі ў нас за гэтыя словы могуць пацягнуць у міліцыю.* Вось некалькі пацвярджэнняў гэтага: *Хлопца збівалі за майкі з надпісам "Люблю Беларусь", яго судзілі за заклікі "Жыве Беларусь!"* (С. Калінкіна). *Згодна з міліцэйскім пратаколам, Сяргей удзельнічаў у несанкцыянаванай акцыі і выкрыкваў антыдзяржаўны лозунг "Жыве Беларусь!"* (Л. Новікава). *Аманаўцы, каб адсекчы дэманстрантаў ад праезнай часткі, выцеснілі калону на тратуар, але вокліч "Жыве Беларусь!" не сціхаў* (А. Світка).

Думаецца, што выраз "Жыве Беларусь!" увайшоў у плоць і кроў пераважнай большасці нашых людзей, і яго ўжо ніяк нельга вытравіць. Нельга яго і нейтралізаваць, аслабіць яго ўздзеянне на людзей, як гэта паспрабавалі зрабіць у цяперашнім гімне Беларусі, дзе ў апошнім радку прыпеву чуем суадносныя з выразам словы: *Слаўся, зямлі нашай слаўнае імя, // Слаўся, народаў братэрскі саюз! // Наша любімая маці-Радзіма, // Вечна жыві і квітней, Беларусь!* Дарэчы, звернем увагу на слова *імя* ў першым радку гэтага прыпеву. Рытм падказвае, што назоўнік *імя*, насуперак спрадвечнай узаконенай норме, трэба вымаўляць, выспеўваць з націскам на першым складзе: *імя*. Як для гімна - гэта ні ў якія вароты не лезе.

У кнізе В. Дзеружынскага "Забытая Беларусь" (2011, с. 371) гаворыцца, што многія чытачы цікавяцца, адкуль узяўся лозунг "Жыве Беларусь!", а некаторыя паўтараюць вычытанае ў нейкай газеце ці, можа, пачутае па тэлебачанні, быццам гэты выраз прыдумалі падчас нямецка-фашысцкай акупацыі калабарацыяністы. Адказ жа на пытанне, адкуль узяўся гэты нацыянальны кліч і сённяшні крылаты выраз, можа быць толькі адзіны: ён з верша Янкі Купалы "Гэта крык, што жыве Беларусь", напісанага ў 1905-1907 гг. і ўпершыню надрукаванага ў ягонай "Жалейцы" (1908). Верш складаецца з 17 страфаў, а ў апошняй паўтараюцца словы, якія ёсць і ў загалоўку: *А вот як не любога гэта поле, і бор, // І зялёны садок, і крыклівую гусь!.. // А што часам тут страшна заенча віхор, - // Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь!*

В. Рагойша вялікі артыкул пра "бацьку нацыі" Янку Купалу назваў "Несмяротная душа Беларусі". На канкрэтных фактах пераканаўча паказана, што "ніхто так умела, далікатна, мэтанакіравана не стварае нацыю ў міжрэвалюцыйны час, як народны пясняр Беларусі Янка Купала". А заканчваецца артыкул такімі словамі: "Ніхто не мог (і ніколі не змажа!) пазбавіць беларусаў іх несмяротнае душы. А таму - жыве Беларусь і жыцьме!"

***Іван Лепешаў.***

# АБ'ЯВА

**У жніўні сядзіба ТБМ працуе штодня**
**з 15.00 да 19.00 гадзін.**
**У суботу і нядзелю сядзіба не працуе.**
**Кніжная выстава ў жніўні пачынае працаваць**
**з 27 жніўня (аўторак).**

# Пра невядомую Беларусь распавёў свету ў новай кнізе Алег Трусаў

У Менску ў выдавецтве “Беларускі кнігазбор” выйшла 2-е, выпраўленае і дапоўненае выданне кнігі кандыдата гістарычных навук Алега Трусава **“Невядомая нам краіна. Беларусь у яе этнаграфічных межах”**. Наклад 500 асобнікаў. Кніга выйшла на беларускай і англійскай мовах і была прадстаўлена на Шостым з’ездзе беларусаў свету.

Працаваць над гэтай кнігай аўтар пачаў даўно. Спачатку рыхтаваў цыкл перадач для "Радыё Свабода", у якіх расказваў пра шматлікія дзяржавы, створаныя нашымі продкамі на тэрыторыі Ўсходняй Еўропы. Каб зрабіць адну перадачу (а рабіў аўтар іх разам з Вячаславам Ракіцкім), трэба было працаваць некалькі месяцаў: збіраць матэрыял, асабліва невядомыя шырокаму слухачу гістарычныя факты, падбіраць адпаведныя цытаты з розных пісьмовых крыніц. Вядома, уключыць усю сабраную інфармацыю ў 10-12-хвілінную перадачу было немагчыма, і тады А. Трусаў пачаў друкаваць яе ў газеце "Наша слова". Матэрыял суправаджаўся разнастайнымі ілюстрацыямі, у тым ліку мапамі, якія дапамагалі зразумець змест напісанага.

Асаблівую цікавасць выклікала перадача, якая прагучала ў 2007 годзе і была прысвечана Вялікаму Княству Смаленскаму. Тэкст перадачы быў выстаўлены на сайце "Радыё Свабода" і нават перадрукаваны ў некаторых незалежных рэгіянальных выданнях. Артыкулы з "Нашага слова" памнажаліся на ксераксе падпісчыкамі газеты і раздаваліся сябрам і знаёмым.

І тады прыйшла ідэя аб'яднаць матэрыялы, прысвечаныя ўсёй этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі, якая канчаткова склалася ў канцы XIX - пачатку XX ст., у адну кнігу.

Варта адзначыць, што ў асноўным этнічная тэрыторыя беларусаў склалася ў другой палове XIX ст., калі ўсе беларускія землі знаходзіліся ў складзе Расійскай імперыі. У гэты час расійскія навукоўцы прызналі існаванне самабытнага славянскага народа пад новай назвай "беларусы". Гэты тэрмін стаў новым палітонімам, які замяніў старую назву "ліцвіны". Падчас перапісу 1897 г. беларусы заявілі пра сябе на ўвесь голас. Адпаведна, сталі з'яўляцца мапы, дзе як беларускія былі пазначаны Вільня і Трокі, Дзвінск і Смаленск разам з Бранскам, Старадубам і Беластокам. Незадоўга да перапісу беларускую этнічную тэрыторыю акрэсліў у трэцім томе "Живописной России", які быў выдадзены ў 1882 г. Такім чынам, 25 сакавіка 1918 г. БНР была абвешчана ў сваіх этнаграфічных межах, бо папярэднія спробы стварыць літоўска-беларускую дзяржаву як спадкаемцу ВКЛ не знайшлі падтрымкі ў літоўцаў.

1 студзеня 1919 г. бальшавікі ў Смаленску абвясцілі БССР у тых самых гістарычных межах, што і БНР. На вялікі жаль, у 1991 г. БССР выйшла са складу СССР у значна меншых памерах, бо яе тэрыторыя на працягу XX ст. не раз мянялася. А вось Літва, пабыўшы ў СССР паўстагоддзя, пакінула яго, істотна павялічыўшы сваю тэрыторыю. Пасля таго, як Сталін перадаў Віленшчыну літоўцам, а Беласточчыну палякам, пытанне аб гэтых этнічных беларускіх тэрыторыях фактычна было пад забаронай. Згадваць часткі Беларусі, якія засталіся па-за межамі СССР, як беларускія было нельга.

Так, галоўны савецкі гісторык пасляваеннай БССР Лаўрэн Абэцэдарскі ў знакамітай брашуры "У святле неабвержных фактаў" (Мінск, 1969) пісаў: "У склад тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага тады ўваходзілі тэрыторыя ўласна Літвы, тэрыторыя Беларусі, тэрыторыя Украіны і частка рускіх (вялікарускіх) земель (у канцы XV ст. да Ржэва, Мажайска, Калугі і Тулы)". Абэцэдарскі і яго хаўруснікі сцвярджалі, што беларусы да 1919 г. не мелі сваёй дзяржавы. Гэты міф быў запісаны ва ўсе падручнікі.







Зараз нам ужо добра вядомыя Полацкая дзяржава, ВКЛ, БНР і БССР. А дзе ж іншыя дзяржаўныя ўтварэнні нашых продкаў? Чаму яны не згаданыя ў школьных падручніках? Чаму ў іх адсутнічае, напрыклад, параграф пра Вялікае Княства Смаленскае, якое было створана нашымі продкамі крывічамі і было самастойнай еўрапейскай дзяржавай з XII па XV ст? Дарэчы, кіраўнік беларускай дзяржавы А. Лукашэнка сказаў у адносінах да Смаленска наступнае: "Я нарадзіўся каля Оршы, побач са Смаленскам. Чаго больш у Смаленску - рускага або беларускага? Ніхто не скажа" (Звязда. - 2007. - 15 кастр. - № 196).

Варта адзначыць, што факт наяўнасці ў Беларусі этнічных тэрыторый за мяжой у 1992 г. прызнаў Кітай. Вось што піша пра гэта першы міністр замежных спраў Беларусі П. К. Краўчанка: "У выніку мы ўсё ж дамагліся падпісання пагаднення ў прапанаванай намі рэдакцыі. Гэта азначала, што такая ўплывовая краіна, як Кітай, тым больш сябра Рады Бяспекі, прызнавала, што Беларусь мае этнічныя тэрыторыі за сваімі межамі. Зразумела, рэалізаваць сёння гэты падыход немаг-чыма. Але ў нашага народа ёсць доб-рая прымаўка: "Запас бяды не чыніць" (Краўчанка, П. Беларусь на ростанях / Пётр Краўчанка. - Вільня, 2007. - С. 239-240). І з гэтым нельга не пагадзіцца.

Пры напісанні гэтай кнігі А. Трусаву давялося выкарыстоўваць самыя розныя крыніцы. Трэба адзначыць, што нават у энцыклапедыях падаюцца не толькі розныя трактоўкі гістарычных падзей, але і розныя даты і нават розныя напісанні імёнаў тых ці іншых гістарычных асобаў ці назвы мясцовасцяў.

Таму быў абраны навукова-папулярны жанр напісання кнігі. Тым не меней для цікаўных чытачоў прыведзены спіс некаторых пісьмовых крыніц, якімі карыстаўся аўтар.

Першае выданне гэтай кнігі пабачыла свет ў 2009 годзе. Тады кніга складалася з дзвюх частак - "Невядомыя беларускія краіны" і "Кнігі, якія варта прачытаць" (рэцэнзіі на гістарычныя кнігі). Пасля выхаду кнігі аўтар атрымаў добрыя водгукі не толькі ад жыхароў Беларусі, але і з тых тэрыторый, якія зараз уваходзяць у склад Расіі. Кнігу прачыталі ў Цвяры, Смаленску і Бранску. З некаторымі чытачамі завязалася перапіска, і пачаўся абмен інфармацыяй.

Узнікла ідэя перакласці яе на іншыя мовы. Першым гэта зрабіў Анатоль Тарас, беларускі выдавец і аўтар гістарычнай літаратуры. У другім нумары дайджэста публікацый пра беларускую гісторыю "Дзеды" за 2009 год ён надрукаваў на рускай мове дзве часткі кнігі. Першая пад назвам "Дзяржава нашых продкаў" мае раздзелы, прысвечаныя Пскоўскай феадальнай рэспубліцы, Вялікаму Княству Смаленскаму і Вялікаму Княству Цвярскому. Другая мае назву "Сярэдняя Літва".

Потым узнікла ідэя перакласці першую частку кнігі "Невядомыя беларускія краіны" на англійскую мову. Пераклад быў зроблены інтэрнацыянальнай камандай у складзе: Кэрал Раўз (Вялікабрытанія) ды Наталля Лабанава (Беларусь).

У тэкст былі ўнесены і некаторыя змены - дадатковая інфармацыя з некаторых пісьмовых крыніц, што з'явіліся пасля выхаду першага выдання.

Аўтар выказвае шчырую падзяку МГА “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” і кіраўніку дабрачыннага фонду “Этнічны голас Амерыкі (ЗША), Ірэне Каляддзе Смірновай, чыя дапамога зрабіла магчымым выданне гэтай кнігі.

Таксама аўтар шчыра ўдзячны Лявону Баршчэўскаму за кансультацыю па перадачы кірылічных беларускіх назваў у беларускай лацінцы.

*Яраслаў Грынкевіч.*



# Ворша: кветкі на месца расстрэлу паўстанца 1863 года



Ігнат Будзіновіч, камандзір аднаго з паўстанцкіх аддзелаў, быў захоплены ў палон і расстраляны ў аршанскай вязніцы.

Яна месцілася ў адрэстаўраваным цяпер езуіцкім калегіюме, на прыступкі якога і ўсклалі кветкі аршанскія дэмакратычныя актывісты.

Атрад інсургентаў пад кіраўніцтвам Ігната Будзіловіча дзейнічаў на тэрыторыі цяперашняга Лёзненскага раёна Віцебшчыны і быў разбіты расейскім войскам недалёка ад вёскі Пагосцішча. Сам Ігнат Будзіловіч трапіў у аршанскую вязніцу і быў расстраляны 28 жніўня 1863 года (9 верасня па новым стылі).

Дэмакратычныя актывісты вырашылі ўшанаваць памяць Ігната Будзіловіча на месцы яго страты, кажа кіраўнік моладзевага аб'яднання "Звяз" Ігар Казмярчак:

- Гэты год - юбілейны, мы адзначаем 150-я ўгодкі паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Ігнат Будзіловіч быў выбітнай асобай, і яго лёс трагічна звязаны з нашымі мясцінамі: у Воршы, пасля 4-х месяцаў утрымання ў палоне, яго расстралялі. Вязніца месцілася тады ў езуіцкім калегіюме. Да Дажынак у 2008 годзе будынак быў адрэстаўраваны, і пакуль вяліся будаўнічыя работы, рабочыя дасталі з зямлі чалавечыя косткі. Сведкі апавядалі, што былі тры ўзроўні пахаванняў: ніжэйшы ўзровень - гэта манаскія пахаванні, якія былі тут з часу пабудовы калегіюма ў 16-м стагоддзі. Тыя косткі ляжалі роўненька, пахаванні былі акуратныя. А ўжо зверху былі пахаванні пачатку і сярэдзіны 19-га стагоддзя, калі ў кляштары ўжо была турма. Тут, відавочна, былі і парэшткі інсургентаў, удзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага. Ідэнтыфікаваць іх ужо было немагчыма, але парэшткі Ігната Будзіловіча таксама былі тут - бо тут яго і расстралялі. І ўжо верхні ўзровень пахаванняў - гэта ахвяры сталінскіх рэпрэсій, таксама вязняў аршанскай турмы, якая дзейнічала ажно да 1990-х гадоў.

Разам з аршанскімі актывістамі памяць Ігната Будзіловіча ўшанаваў і мастак Мікола Купава. Ён - ураджэнец Воршы, і якраз гэтымі днямі ў горадзе экспанавалася выстава ягоных карцін "Свята Бацькаўшчыны". Сярод іх - і творы, прысвечаныя гістарычнаму паўстанню 1863-64 гадоў.

Напрыканцы жніўня - на пачатку верасня актывісты Віцебшчыны плануюць паездку па Лёзненшчыне - па тых мясцінах, дзе аршанскі аддзел паўстанцаў пад кіраўніцтвам Ігната Будзіловіча ваяваў з царскім войскам.

*Радыё Свабода.*

# Беларуская музыка і арыфметыка



**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11, разліковы рахунак № 3015741233011 у аддз. №539 ААТ Белінвестбанк", г. Мінск, код 739

**21 чэрвеня 2013 г. № 45**

Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта
Рэспублікі Беларусь
Кабякову А.У.
К. Маркса, 38,
г. Мінск, 220016

Аб пашырэнні беларускамоўных
музычных твораў у эфіры
беларускага радыё і тэлебачання

**Шаноўны Андрэй Уладзіміравіч!**

У свой час на дзяржаўным узроўні было прынята рашэнне, каб на беларускім радыё гучала не менш як 75% твораў мясцовых аўтараў і выканаўцаў.

На жаль, пра мову гэтых твораў нічога не было сказана. І таму беларускамоўным аўтарам і выканаўцам складаюць вялікую канкурэнцыю рускамоўныя творы, прычым далёка не заўсёды належнай якасці.

Да нас прыходзяць скаргі грамадзян Беларусі на тое, што беларускамоўную песню не так часта можна пачуць у нацыянальным беларускім эфіры.

У сувязі з гэтым просім Вас прыняць адпаведнае рашэнне, каб не менш як палова ад вышэйзгаданых 75 % твораў мясцовых аўтараў і выканаўцаў былі на дзяржаўнай беларускай мове. Мы лічым, што такое мудрае рашэнне будзе падтрымана ўсімі нашымі кампазітарамі, паэтамі, спевакамі і празаікамі.

З павагай,
старшыня ТБМ Алег Трусаў.

---



МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Праспект Пераможцаў, 11,
220004, г. Мінск
тэл. (017) 203 92 31, факс (017) 203 34 35

МИНИСТЕРСТВО ИНФОРМАЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Проспект Победителей, 11,
220004, г. Минск
тел. (017) 203 92 31, факс (017) 203 34 35

«05» 07 2013 №10-07/3452ДС
на № ..............

Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы імя
Францішка Скарыны"
А. Трусаву
вул. Румянцава, 13,
220034, г. Мінск

Аб звароце

У адказ на Ваш зварот, накіраваны з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, паведамляем, што ўсе радыёстанцыі, якія ажыццяўляюць наземнае эфірнае радыёвяшчанне, зарэгістраваныя Міністэрствам інфармацыі ў адпаведнасці з дзеючым Законам Рэспублікі Беларусь ад 17 ліпеня 2008 года "Аб сродках масавай інфармацыі" (далей - Закон аб СМІ), з'яўляюцца сродкамі масавай інфармацыі.

У адпаведнасці з пунктам 1 артыкула 9 Закона аб СМІ масавая інфармацыя можа распаўсюджвацца ў Рэспубліцы Беларусь на дзяржаўных мовах Рэспублікі Беларусь і на іншых мовах.

Па даручэнні Кіраўніка дзяржавы ў эфіры радыёстанцый, якія ажыццяўляюць вяшчанне, творы беларускіх аўтараў і выканаўцаў складаюць не менш за 75% у найбольш рэйтынгавы час. На падставе артыкула 7 Закона аб СМІ не дапускаецца незаконнае абмежаванне свабоды сродкаў масавай інфармацыі, якое выяўляецца, у тым ліку: ва ўмяшальніцтве ў сферу прафесійнай самастойнасці юрыдычнай асобы, на якую ўскладзены функцыі рэдакцыі сродка масавай інфармацыі; іншай перашкодзе ў якой-небудзь форме законнай дзейнасці заснавальніка (заснавальнікаў) сродка масавай інфармацыі, юрыдычнай асобы, на якую ўскладзены функцыі рэдакцыі сродка масавай інфармацыі, распаўсюдніка прадукцыі сродку масавай інфармацыі.

Зыходзячы з вышэйвыкладзенага, Міністэрства інфармацыі будзе падтрымліваць ініцыятывы радыёстанцый аб пашырэнні вяшчання твораў беларускіх аўтараў і выканаўцаў.

Міністр А.В. Праляскоўскі.

---

## Вяселле па-беларуску

Лета - традыцыйная пара вяселляў. І дужа прыемна, што маладыя сябры і прыхільнікі ТБМ усё часцей выбіраюць родную беларускую мову для правядзення вясельнай бяседы.
Гэта адбываецца і ў Магілёве, і ў нашай сталіцы, і ў яе ваколіцах.
Дарэчы, гэта можа быць стылізавана і пад сярэднявечча.
Сапраўднае беларускае вяселле можа быць і модным, і сучасным, і запамінальным на ўсё жыццё.
Каго зацікавіла гэта інфармацыя, звяртайцеся па тэл.
8-029-353-19-86,
8-029-764-73-20 - "Святочны express"

# У Дзятлаве і Валеўцы прыгадалі 100-ыя ўгодкі Міхася Петрыкевіча

2 жніўня ў Дзятлаве і Валеўцы, што на гістарычнай Навагрудчыне, адбылася імпрэза ўшанавання 100 гадовага юбілею Міхася Петрыкевіча, беларускага педагога, музеязнаўца, стваральніка краязнаўчых музеяў. Асноўная частка памятнага мерапрыемства прайшла ў Дзятлаўскім краязнаўчым музеі, дзе ў рамках літаратурна-музычнай часткі была прыгаданая біяграфія заснавальніка экспазіцыі, выступілі людзі, якія добра ведалі Міхася Петрыкевіча, а таксама яго нашчадкі. Для прысутных была падрыхтаваная адмысловая памятная выстава. Пасля адбыўся выезд і экскурсія па Валеўскім школьным краязнаўчым музеі, менавіта з яго пачынаў сваю збіральніцка-асветніцкую дзейнасць руплівец беларускай справы. Там жа, пры Валеўскай школе Міхась Петрыкевіч заснаваў адмысловы дэндрарый.

Міхась Петрыкевіч нарадзіўся 31 ліпеня 1913 года ў вёсцы Падкасоўе, што на Навагрудчыне, у праваслаўнай сям'і. Вучыўся ў пачатковай школе, пасля скончыў двухгадовую школу ў Адампалі. У 1925-ым паступіў у Навагрудскую беларускую гімназію, як удзельнік заходнебеларускага моладзевага руху ў апошнім класе быў арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены. Прысуд быў такі - тры гады няволі і дзесяць гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. Пасля выхаду з турмы Петрыкевіч тры гады быў рабочым у Налібоцкай пушчы. Зімой 1938-39 гадоў вучыўся ў Вільні на прыватных вячэрніх курсах пры сярэдняй тэхнічнай школе. Потым працаваў на меліярацыі на Шчучыншчыне. У 1940-41 гадах вучыўся на літаратурным факультэце ў Беластоцкім педагагічным інстытуце. У вайну жыў на вёсцы, працаваў рахунквадам дарожнага аддзелу ў мястэчку Любча, у канцы вайны прайшоў савецкае войска.



Пасля вайны Міхась Петрыкевіч паступіў вучыцца на літаратурны факультэт Менскага педінстытута, потым працаваў настаўнікам беларускай мовы, літаратуры, працы ў школе Карэлічаў. Пасля пераехаў у мястэчка Валеўка, дзе быў завучам і стварыў мясцовы краязнаўчы музей. Яшчэ пазней быў плённы дзятлаўскі перыяд, які пачаўся ў 1967-ым годзе. У Дзятлаве Петрыкевіч стварыў музей фактычна з нуля, а ўсяго праз год ён ужо адчыніў свае дзверы. Па сведчаннях сучаснікаў Міхась Петрыкевіч быў чалавекам высокай культуры і энцыклапедычных ведаў, пра кожную рэч у сваім музеі мог расказаць цікавую захапляльную гісторыю. Прыйшло і прыжыццёвае прызнанне - ён быў уганараваны тытулам заслужанага настаўніка школы БССР, узнагароджаны шматлікімі дыпломамі і граматамі. Пры чынным удзеле Петрыкевіча былі пастаўлены і шэраг помнікаў, у тым ліку бюст Ігната Дварчаніна ў Дзятлаве.



Міхась Петрыкевіч быў добра знаёмы і сябраваў з рознымі беларускімі адраджэнцамі - Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Уладзімірам Калеснікам, якія часта прыязджалі да яго на гістарычную Навагрудчыну. Шчырымі паслядоўнікамі бацькі ў справе беларускага Адраджэння сталі ягоныя дзеці - Валерый і Святлана (нядаўна яна адышла ў лепшы свет), якія актыўна ўлучыліся ў дзейнасць розных беларускіх арганізацый.

У 1985 годзе Міхась Петрыкевіч пераехаў на стала ў Вільню. Памёр ён 6 сакавіка 1999 года. Пахаваны на могілках Карвялішкес ля Вільні.

*Уладзімір Хільмановіч,*
*Беларускае Радыё Рацыя*
*Фота аўтара.*

# Кніга пра езуітаў на Беларусі

27 ліпеня ў магілёўскай ратушы адбылася прэзентацыя і ўрачыстая перадача Музею гісторыі Магілёва кнігі "Дзіўныя паведамленні пра езуітаў у Беларусі". Кніга гэтая была выдадзеная ў Франкфурце-на-Майне ў 1786 годзе і змяшчае ў сабе звесткі пра дзейнасць ордэна езуітаў у нашай краіне і, у прыватнасці, у Магілёве. Выкупленая на віртуальным аўкцыёне, яна была перададзеная на Беларусь дзякуючы публіцысту Алесю Чайчыцу. Былі прэзентаваныя і іншыя прадметы як сабраныя супрацоўнікамі музея, так і перададзеныя магілёўцамі ў Музей гісторыі, сярод іх старажытныя манеты, гравюры, падшыўка нямецкамоўнай газеты са звесткамі пра паўстанне 1863 года, Меркатарава карта старой Літвы 1608 года выдання з першай картаграфічнай фіксацыяй горада Магілёва. Таксама цікава было пачуць аповед пра аднаўленне магілёўскай ратушы. Да таго ж, падзякамі былі ўшанаваныя асобы і арганізацыі, якія дапамагалі ў папаўненні музейных фондаў. Сярод іх падзяка была выказаная і магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны, а таксама яе старшыню Алегу Дзьячкову.



*Аляксей Карпенка.*

*Мы, як птушкі з тых азёраў,*
*Сёння тут, а там за морам*
*Будзем можа ўжо.*

*Што сніць сэрца, перасніцца,*
*Песні цвёрдыя, як жыцце*
*Хай вядуць у бой.*

*Рукі ціснуць рукаяцці,*
*Шчыры ўціск,*
*пакуль аб'явіць*
*З неба хвілю Бог.*

*Шчасце, доля потым, можа,*
*Толькі Ты знаць*
*здольны, Божа.*
*Што спаткае нас.*

*Можа, шчасце*
*ўсмешкі мілай,*
*Можа, кветку на магілу*
*Нам рыхтуе час.*

*Альвіда Антаніна Баер*

# Баляслаў Колышка - двойчы павешаны

Гэта "Песенька жаўнера", словы Мечыслава Раманоўскага, аднаго з апошніх паэтаў - рамантыкаў. Ён быў удзельнікам паўстання 1863 г., у якім загінуў.

Бог абвясціў яму з неба хвілю, калі Раманоўскаму было 29 гадоў... Паэты - прарокі не толькі чужых лёсаў, але і ўласных.

Раманоўскі загінуў у бітве. Баляслаў Колышка скончыў зямны шлях на шыбеніцы па выраку Мураўёва-Вешальніка. Вешалі яго два разы...

**Баляслаў Каятан Колышка**, гербу Яліта быў адным з выбітных правадыроў паўстання 1863 года на Літве. Нарадзіўся 26 ліпеня 1837 г. у фальварку Карманішкі, размешчаным блізка ад Бутрымканцаў. Быў сынам Вінцэнта і Апалоніі з Банкоўскіх, у першым шлюбе Юрша (брала шлюб з Вінцэнтам, як удава, мела на той час 36 гадоў). Бацька Баляслава, Вінцэнт Колышка быў сынам Яна і Янны з Бразоўскіх. Маці Баляслава, Апалонія з Банкоўскіх, у першым шлюбе Юрша, паходзіла з маёнтка Навіцкішкі (па-рафія Эйшышская), у сваю чаргу яе маці была з Жаброў-скіх.

Навіцкішкі ў сярэдзіне XVIII стагоддзя належалі Юршам. Вінцэнт і Апалонія Колышкі жылі ўпачатку менавіта ў тых Навіцкішках, крыху пазней аселі ў Карманішках і жылі там у 1836-1843 гадах, адкуль зноў вярнуліся ў Навіцкішкі.

Баляслаў рос у вялікай сям'і, браты Ян Вінцэнт, Фелікс Генрык, Уладзіслаў і Браніслаў, а таксама сястра Адальфіна.

Баляслаў спачатку вучыўся ў Навіцкішках, потым удасканальваўся ў павятовай школе ў Лідзе, гімназію скончыў у Вільні. Вывучаў права ў Маскоўскім універсітэце. У той час ён належаў да рэвалюцыйнай арганізацыі студэнтаў "Агул", у якой таксама дзейнічалі Зыгмунт Серакоўскі і Цітус Далеўскі. Была гэта вельмі моцная арганізацыя. У Маскоўскім універсітэце вучылася ў той час 600 выхадцаў з былой Рэчы Паспалітай. Афарбоўка іх была "чырвоная". Паэзія, эміграцыйныя брашуркі і літаграфічныя лісткі былі поўныя нацыянальнага дынаміту ("Ода да маладосці", "Дасвецце", "Ода да свабоды"). Не сходзілі з вуснаў напоўненых рэвалюцыйнай экспрэсіяй вершы Зыгмунта Красінскага.

За ўдзел у студэнцкай маніфестацыі ў 1861 годзе Баляслаў Колышка быў арыштаваны. У канцы 1861 года ўдалося яму прабрацца ў Італію, дзе ўступіў у польскую вайсковую школу ў Генуі-Кунеа.

Школа тая была заснавана галоўным чынам стараннямі Марцэля Любамірскага і пры ўдзеле генерала Мераслаўскага і Гарыбальдзі ў кастрычніку 1861 года. Збірала яна ў сабе моладзь, якая ад пачатку 1860 года досыць актыўна эміграваля з колішняй Рэчы Паспалітай, каб па закліку Мераслаўскага стаць у шэрагі арганізаванага ім Італьянскага замежнага легіёна. Легіён той мусіў узяць удзел у спланаванай Гарыбальдзі выправе супраць Аўстрыі.

Першым дырэктарам школы быў генерал Мераслаўскі, пазней генерал Высоцкі. Камендантам школы быў палкоўнік Фіялкоўскі. Праз пару месяцаў, у сакавіку 1862 года, школа была перанесена ў Кунеа. Не гледзячы на нязгоду, суперніцтва і зайздрасць паміж двума польскімі генераламі - Мераслаўскім і Высоцкім - тая школа падрыхтавала каля 150 інструктараў для паўстання. Сярод іх многія адыгралі выбітную ролю і вызначыліся на полі бою. Сярод іх быў і Баляслаў Колышка.



### Баі Баляслава Колышкі

Колышка прыбыў на Ковеншчыну ў канцы лютага або ў пачатку сакавіка 1863 года і заспяшаўся ў арганізаваны ў Ковенскім павеце (паміж Чакішкамі і Высокім Дваром) аддзел Браніслава Жджарскага (у іншых крыніцах - Жарскага), які не адчуваючы ў сабе сілы кіраваць партыяй, сышоў з кіраўніцтва на карысць Колышкі. Колышка мэтанакіравана ўзяўся за рассыланне маніфестаў, выдадзеных Цэнтральным Нацыянальным Камітэтам 22 студзеня 1863 года. Тыя адозвы з чыннай дапамогай пробашчаў акалічных парафій хутка трапілі пад сялянскія стрэхі і хутка пачалі прыносіць карысць. Маладыя, старэйшыя і нават старыя па-аднаму або групамі пачалі сцягвацца ў паўстанцкі лагер, а ўжо найвялікшая хваля наплывала з моманту, калі ў лагеры з'явіўся ксёндз Антоні Нарвойш з Панявежы.

У першыя дні партыя складалася з больш, чым 60 чалавек, і сярод іх Уладзіслаў Млынскі, звольнены ротмістр Смаленскага палка ўланаў, а таксама Антоні Стырпейка, выхаванец Шляхецкага інстытута ў Вільні.

На працягу некалькіх дзён аддзел вырас да ліку 250 чалавек, і тады Колышка пачаў арганізоўваць партыі.

Першым батальёнам камандаваў Браніслаў Жджарскі (Жарскі), другім Юзаф Радовіч, трэцім так зв. батальёнам "В" - былы расейскі афіцэр (прозвішча з прычын, якія лёгка дадумаць, у рапарце не было названа). Ад'ютантам быў Антоні Стырпейка, скарбнікам Турчыновіч, справай забеспячэння займаўся Уладзіслаў Млынскі, што таксама было справай няпростай.

Правізіяй і зброяй дастаўлялі вяскоўцы - часткова дарма, часткова за грошы, плачаныя партыяй (прысылаў іх доктар Длускі - Ябланоўскі). Адчувальным быў недахопу абутку, на 213 чалавек не хапала 105 пар ботаў, не ставала бялізны, сярмяг.

Вестка аб арганізоўваным паўстанчым аддзеле дайшла неўзабаве да расейскіх уладаў, і камендант расейскіх войскаў Ковенскай губерні, генерал-маёр Сухабольскі выслаў маёра Сцяпанава на чале дваццаці стральцоў Капорскага палка, каб разаслаў маніфест, выдадзены царом Аляксандрам II, абяцаючы амністыю тым паўстанцам, якія складуць зброю і падпішуць вернападданіцкі адрас. Тэрмін цар вызначыў да 12 траўня 1863 года (адсюль той, які наступіў пазней выезд Мураўёва з Пяцярбурга, 12 траўня - не дачакаўшыся заспакаення непакорных падданых цар аддзялягуе ўжо неўзабаве "Вешальніка" ў Вільню, прызначыўшы яго "ваенным генерал-губернатарам).

Але цяпер яшчэ толькі канец сакавіка. І там, на Ковеншчыне Сухабольскі апраца дваццаці стральцоў пад кіраўніцтвам Сцяпанава пасылае на аддзел Колышкі яшчэ роту стральцоў пад камандаваннем капітана Міхалоўскага, які падцягнуўся да мястэчка Ваўкі, адтуль да Чакішак і тут спаткаўся са стральцамі маёра Сцяпанава. Камандзіры расейскіх аддзелаў былі ў шоку ад весткі, што паўстанцкая партыя, якая стаіць лагерам пад Высокім Дваром, складаецца больш, чым з 700 чалавек. Канешне тыя непраўдзівыя пагалоскі распускаліся мэтанакіравана, паўстанцкія сілы былі па сутнасці напалову меншыя.

Расейскае войска рушыла ў кірунку Высокага Двара, узяўшы з сабой яшчэ сто казакаў.

Паўстанцы і далей заставаліся ў Высакадворскіх лясах. Неўзабаве дойдзе да спаткання лоб у лоб. А выглядала гэта так.

У густым яловым лесе была невялікая паляна, працятая дарогай і невялікім ручаём. Не вельмі высокі пад'ём мясцовасці зніжаўся да берага ў даліне. За колькі дзясяткаў крокаў ад лесу віднеліся пабудовы лоўчага Падбельскага, з другога боку стаяла хата лесніка.

Батальён Жджарскага (Жарскага) знайходзіўся ў будынках лоўчага, дзе размяшчалася і галоўная кватэра. Батальён "В" быў у хаце лесніка, Радовіч жа з рэштай людзей знаходзіўся ў лесе.

28 сакавіка на світанні расейскае войска прыбыло ў Высокі Двор. Вясенні ранак быў імглісты, і казакі Сцяпанава, схаваўшы конныя пікеты, падышлі незаўважнымі да пярэдняй варты.

І ў той жа час, убачыўшы Колышку, выязджаўшага з будынкаў лоўчага, пачалі страляць у яго з адлегласці каля 800 крокаў. Агонь трываў 15 хвілін, ад стрэлаў загарэліся пабудовы ляснічага, а неўзабаве адбыўся выбух пораху, забытага пры ўцёках паўстанцамі.

Расіяне занялі бліжнія хаты. Частка паўстанцаў адстрэльвалася з ускрайку лесу, частка разбеглася. Колышка, сабраўшы сваіх людзей, кінуўся на бесперапынна страляўшых расейскіх салдатаў, каб здабыць займаныя імі пазіцыі, калі ж, аднак, атака не ўдалася, адступіў. Пасля гэтага ён пачаў асцярожна акружаць войска непрыяцеля, каб неспадзявана ўдарыць па ім з тылу. Манеўр Колышкі быў заўважаны. Колышка вярнуўся да займанай перад тым хаты і пачаў збіраць рэшткі паўстанцаў. Была гэта першая сутычка, аднак прайграная.

Страты, якія панеслі паўстанцы ў той высокадворскай сутычцы, цяжка дакладна акрэсліць. Мядэнша ў сваёй "Манаграфіі паўстанцкіх аддзелаў па Жмудзі" ("Айчызна" Бэндлікон, 1864) падае, што было 16 забітых і 1 параненых, затое лік уцёкшых паўстанцаў акрэсліў як 200.

У высакадворскай сутычцы быў забіты ксёндз, які ехаў брычкай з Чакішак, адна жанчына цяжка параненая, яе дзіця ўкінулі ў агонь, а дачку лоўчага Падбельскага закалолі штыкамі.

Колышка, атрымаўшы ад начальніка Надняважскай партыі Тадэвуша Кушлейкі вестку з просьбай, каб паспяшаў яму на дапамогу, рушыў да Ленчаў і Ажытанаў, дзе ў блізкіх лясах знаходзілася партыя Кушлейкі. У баі пад Ленчамі аб'яднаныя сілы паўстанцаў таксама панеслі значныя страты, але разгромлены не былі.

### Гонар, Айчына... Галоўнае гонар.

Згодна з тым, як яно ёсць на нацыянальным штандары: гонар, а потым Айчына. Як паступаў Колышка са сваімі палоннымі непрыяцелямі або з палякамі, якія былі на службе ў расейскіх уладаў. Вось адзін з прыкладаў, занатаваных пазней у рапарце.

7 красавіка, позна ўвечарам Колышка прыбыў у Эйраголу, арыштаваў прыстава Апульскага і пры яго доме паставіў варту. Пазней загадаў рэквізаваць з гмінных управы і паліцэйскай канцылярыі меўшыяся там акты, кнігі, кодэксы праўныя, урадавыя паперы, вывезці іх за мястэчка і спаліць. Адабраў таксама ад прыстава дзве штукі зброі, а ад касіра грошы (у агульнай суме 365 рублёў 80 капеек) і ў поўнач пакінуў Эйраголу, забраўшы з сабой Апульскага, чыноўніка з паліцэйскай канцылярыі Фелікса Раманоўскага, а таксама гміннага пісара. Пазней разам са сваім аддзелам Колышка рушыў гасцінцам углыб Расіенскага павету.

Колышка затрымаўся у карчме яўрэя Гіркоўскага і выпусціў вязняў на волю, сурова забараніўшы найперш Апульскаму пачыnанне якіх-небудзь перашкод паўстанцам.

Эйрагола. Чакішкі, Расіены. Лясы, пушчы, пераправы цераз рэкі - цераз Шушву, Дубісу... Наогул, варта праехаць па тых тэрыторыях - шляхам Колышкі (а частка з тых мястэчак і вёсак ляжыць таксама на шляху героя ў сянкевічавага "Патопу").

У "Мураўёўскім архіве", як ужо згадвалася, знаходзіцца мноства прызнанняў удзельнікаў тых баёў. Факты, мясцовасці, прозвішчы... Што тычыцца прозвішчаў, то тут трэба захоўваць выключную асцярожнасць, бо могуць гэта быць псеўданімы або наогул прозвішчы выдуманыя (асабліва тых, якія яшчэ жылі, хаваліся па лясах).

Ніжэй падаём факты, здарэнні. Мясцовасці, запісаныя ў расейскіх (часткова ў польскіх) вайсковых рапартах, а таксама з прызнанняў самога Колышкі.

8 красавіка партыя Колышкі наткнулася на лістовую пошту, пры паштовым прыстанку ў Чакішках. Колышка загадаў усю прыватную карэспандэнцыю спаліць, а ўрадавую забраў з сабой, зрэквізаваўшы пры тым брычку і пару коней, на што таксама выдаў квітанцыю. Таго самага дня паўстанцы затрымаліся ў Міхалове (павет Расіенскі) у маёнтку Доўгірда і забралі знойдзеную там зброю і запасы прадуктаў, а таксама раскідалі ўлёткі - маніфест, каб абвяшчаў вызвалення сялян ад прыгону.

9 красавіка Колышка выслаў у Гіртакольскую гмінную ўправу, якая знаходзілася паблізу ад Расіен, пяць узброеных людзей, якія знішчылі акты, што там знайходзіліся. Потым паўстанцы пераправіліся цераз рэчку Дубісу паромам, які пасля пераправы быў пасечаны, а пасля спалены.

Потым паўстанцы перайшлі ў Ковенскі павет, дзе разбілі лагер у лясах, якія належалі генеральшы Кайзеравай каля вёскі Місюны. Было гэта месца вельмі небяспечнае, бо Кайзерава, як і яе мужыкі былі варожа настроены супраць паўстанцаў.

Аднак жа - сталася. Пра месца пастою парты Колышкі ўжо наступнага дня данеслі палкоўніку Бежайранаву, камандзіру 1-га стралецкага батальёна, які размяшчаўся ў Шымкайцях. Бежайранаў вырушыў на Місюны. Сутыкненне абодвух войскаў адбылося 11 красавіка.

Пачуўшы трывожны стрэл, Колышка адвёў лагер углыб лесу, выбраўшы 44 стральцоў (звярніце ўвагу, "міцкевічаў" лік), загадаў ім заняць пазіцыю на ўскрайку лесу. Пасля гадзіны чакання расейскае войска заатакавала партыю Колышкі, але, прывітанае градам густых стрэлаў, адступіла, а затым пачалі абхопліваць паўстанцаў з флангаў. Паўстанцкія стральцы, заўважыўшы той манеўр, адступілі ўглыб лесу і пад аслонай густых зарасляў працягвалі страляць, пакуль расейскае войска не пакінула поле бою.

*(Працяг у наст нумары.)*



# 1863 год. Забытая гісторыя.

*"Донесение о повешении священника Конопасевича 4 июня 1863 года.*

*Шефу жандармов, главному начальнику третьего отделения собственной Его Императорскому Величеству канцелярии господину генерал-адъютанту и кавалеру Долгорукову.*

*Игуменский уездный исправник доносит, что в шесть часов вечера 23 сего мая, пришли сорок человек мятежников из шайки Свенторжецкого в собственное его имение Богушевичи, из них несколько человек отправились в дом православного приходского священника Конопасевича, вытащили его из покоев и повесили на перекладине ворот. Священник оставил жену и трех малолетних детей. Свенторжецкий после уничтожения его лагеря 9 мая скрылся со своею партиею за болотами в дремучий лес. Полковник Рейхард."*

Адной з найменш вывучаных тэмаў у гісторыі Беларусі з'яўляецца тэма паўстання 1863 года. Яно было разрозненым, складалася з соцень асобных выступленняў, выбухаў, сутычак і сапраўдных бітваў.

На Бярэзіншчыне захавалася толькі два месцы, звязаныя з тымі падзеямі. Гэта ўсыпальніца Свентаржэцкіх і помнік святару Канапасевічу ў вёсцы Багушэвічы. Так склалася лёсам, што ў адной мясцовасці знайшлі месца спачыну ворагі: Свентаржэцкія, якія ваявалі за свабоду сваёй краіны і праваслаўны святар, які абараняў акупацыйны рэжым Расійскай імперыі. Пасля задушэння паўстання па ўказанні Мураўёва-Вешальніка маёнтак Свентаржэцкіх быў спалены, а месца, дзе ён знаходзіўся заворана. Праз пэўны час на магіле святара быў устаноўлены помнік. З цягам часу пра помнік забыліся, надмагільны камень зарос хмызняком і толькі дзякуючы краязнаўцу Прыбыткіну П.А. быў адноўлены ў 1999 годзе.

Напэўна не ведаў у той час краязнавец, чым так адзначыўся гэты святар. У літаратуры гэтай інфармацыі было няшмат, толькі ў выданні 1965 года ёсць такія звесткі: *"Конопасевич Даниил - священник Богушевичской приходской церкви Игуменского уезда. Повешен повстанцами за агитацию крестьян помогать войскам в поимке повстанцев и жестокое обращение с пленными повстанцами"* .

Але што ж усё такі здарылася ў тым годзе? Адказ можна знайсці ў нашага славутага беларускага класіка Ўладзіміра Караткевіча. Працуючы над раманам "Каласы пад сярпом тваім", у архівах ён адшукаў адказ на гэтае пытанне: *"8 мая ў 20 вёрстах ад Ігумена, ля вёскі Юравічы, загрымела пяцігадзінная бітва. Карнікам удалося разграміць інсургентаў. Былі захоплены палонныя. Пачалася расправа. Адзін з параненых паўстанцаў прасіў піць і тады поп Канапасевіч, грунтуючыся, відаць, на вучэнні аб хрысціянскай літасці насыпаў яму ў рот пяску. Пазней гэтага папа інсургенты павесілі на перакладзіне ўласных варот, чым далі афіцыйнай прэсе падставу крычаць аб злачынствах"* .

Яшчэ ў 1839 годзе маскоўскімі ўладамі гвалтоўна была скасавана ўнія. Уніяцкія цэрквы прымусова перадаваліся праваслаўным. Так адзіны беларускі этнас не па сваёй волі, а ў выніку адміністрацыйнага скасавання яго рэлігіі стаўся падзеленым у канфесійным плане на дзве часткі: праваслаўных і католікаў.

Мясцовых святароў, былых уніятаў, карыстаўшыхся павагай у вернікаў, дзякуючы сваёй адукаванасці і культуры, замянілі тысячы барадатых папоў з Расійскай глыбінкі. Яны здзіўлялі мясцовых жыхароў сваім безкультур'ем і п'янствам, і ніхто з іх не ведаў ліцвінскай (беларускай мовы).

Насуперак рэальным фактам яны пераконвалі сваіх вернікаў у тым, што спрадвеку ў іх культуры, мове, звычаях усё было агульнае з рускім народам.

Добрая частка ўніяцкіх святароў, чые цэрквы сталі праваслаўнымі, імкнулася знайсці службу ў каталіцкай канфесіі. Іх прыход сюды ў пэўнай ступені тлумачыць, чаму ксяндзы, а не папы прымкнулі да паўстання 1863-1864 гадоў. Праваслаўныя святары, як вядома нават дапамагалі маскоўскім войскам вылаўліваць паўстанцаў, заклікалі пад час малебнаў не далучацца да іх атрадаў. Першымі, каго публічна пакаралі смерцю за ўдзел у паўстанні былі вікарны ксёндз з Лідскага павету Станіслаў Ішора і ксёндз Раймунд Зямацкі.

Пасля задушэння паўстання было павешана 128 яго ўдзельнікаў. Каля 1000 асуджана на катаргу, звыш 12000 саслана ў глухія раёны Масковіі. Мураўёў-Вешальнік ініцыяваў чарговы разбор "шляхты". Ён забараніў шляхце збірацца разам па некалькі чалавек, нават на сямейныя святы. Былі звольнены са службы чыноўнікі-католікі. На іх месца прывезлі з Расіі службоўцаў, якім аддалі сотні канфіскаваных маёнткаў. Ваеннае становішча ў Беларусі працягнулася да 1870 года. Вяршыняй дзеяння Вешальніка стала забарона тэрмінаў "Беларусія" і "беларусы". Быў дадзены тэрмін "Северо-западный край". Царызм забараніў тэрмін "Беларусія", які сам жа прыдумаў для замены слова "Літва". Той, хто сказаў альбо напісаў слова "Беларусь" першы раз караўся штрафам. Злосных парушальнікаў чакала турэмнае зняволенне.

Аб удзеле каталіцкага святарства ў паўстанні шырока асвечана ў часопісе, ARCHE № 12(99) за 2010 г. Зінаідай Антановіч і Вольгай Гарбачовай "Паўстанне 1863-1864 гг. у лёсе рымска-каталіцкага святарства Беларусі".

Царскі ўрад, разумеючы статус каталіцкага духавенства, яго ўплыў на мясцовае насельніцтва, жорстка рэагаваў на любыя праявы непаслухмянасці. З боку дзяржаўных уладаў назіраецца недавер не толькі да ніжняга духавенства (дэканаў, адміністратараў, пробашчаў, вікарыяў), але і найвышэйшых прадстаўнікоў каталіцкага кліру. Улады надавалі ўвагу кожнаму данясенню, якое кідала цень на рэпутацыю ксендза. Пад час паўстання і пад час яго задушэння ключавую ролю ў жыцці святарства набывае пацверджанне палітычнай дабранадзейнасці. Святары мусілі даказваць гэта шляхам прадстаўлення паручыцельства ад трох асобаў шляхецкага стану, якія абавязваліся ў выпадку абвінавачвання даверанай асобы выплаціць за яго спагнанне.

У нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захаваліся паручыцельствы на імя вікарыяў Бярэзінскага касцёла Флавіяна Піянткоўскага і Юстына Кодзя, якія нават не знаходзіліся пад следствам.

**Флавіян Піянткоўскі** нарадзіўся ў 1787 годзе. Паходзіў са шляхты Падольскай губерні. Вучыўся ў Вінніцкай павятовай вучэльні. З 1828 года - у Дубровенскім, Заслаўскім і Нясвіжскім бернардзінскіх кляштарах. У 1838 годзе рукапалажоны і прызначаны вікарыем Раваніцкай філіі Бярэзінскага касцёла. У 1870 годзе тройчы аштрафаваны за нязгоду карыстацца рускай мовай пад час набажэнства. У 1871 годзе пераведзены ў Кайданаўскі касцёл. У 1876 годзе - ў Раваніцкі на пасаду філіяліста. З 1884 года на пенсіі.

**Юстын Кодзь** нарадзіўся ў 1820 годзе. Паходзіў са шляхты Віленскай губерні. З 1845 года вучыўся ў Віленскай губернскай гімназіі, затым у Маскоўскай медыка-хірургічнай акадэміі. З 1852 года ў Віленскай і Менска-Магілёўскай дыяцэзійных семінарыях. У 1856 годзе рукапалажоны і прызначаны вікарыем Лагойскага касцёла, у 1858 годзе пераведзены ў Бярэзінскі касцёл. У 1859 г. вярнуўся ў Лагойск. У 1861 годзе зноў у Бярэзінскім касцёле, дзе выконваў абавязкі пробашча ў 1863-1866 гадах, пасля чаго пераведзены ў Варанчанскі касцёл.

Адным з крытэрыяў пацверджання дабранадзейнасці святара лічылася правядзенне ім набажэнстваў за здароўе імператарскай сям'і.

Сваё стаўленне да паўстання святарства адлюстроўвала праз адносіны да абуральных сачыненняў супрацьурадавага зместу. За аналагічныя ўчынкі меры пакарання былі розныя. Гэта магчыма прасачыць у выпадку з Бярэзінскім адміністратарам **Антоніем Міхаэлесам**. У 1865 годзе яму прад'явілі абвінавачанне ў нашэнні забароненага адзення, заахвочванні прыхаджан спяваць у касцёле абуральныя гімны, а таксама ў хаванні паўстанцаў. Хоць гэтыя абвінавачванні не пацвердзіліся, святара пакінулі пад падазрэннем. Хутка на скарзе селяніна Масенюка, які сцвярджаў, што бярэзінскі святар не прыняў ад яго грошай на правядзенне набажэнства, Міхаэліса перавялі на пасаду вікарыя ў іншую парафію. Пасля ягонай высылкі святароў, якія маглі выконваць душпастырскія абавязкі ў азначаным рэгіёне не засталося.

Антоні Міхаэліс нарадзіўся ў 1827 годзе ў шляхецкай сям'і Менскай губерніі. У 1839-1845 гадах навучаўся ў Менскай гімназіі, пасля чаго паступіў у Менскую рымка-каталіцкую духоўную семінарыю. У 1851 годзе быў рукапалажаны і прызначаны вікарыем Барысаўскага касцёла, а ў 1858 годзе пераведзены на пасаду адміністратара Бярэзінскага касцёла.

Шырока распаўсюджанай мерай пакарання да рымска-каталіцкага святарства была ссылка. 5 сакавіка 1864 года Аляксандр ІІ зацвердзіў правілы для ссылкі, пасялення і ўсталявання паліцэйскага нагляду за ўдзельнікамі паўстання. Асобы духоўнага стану, сасланыя ў адміністрацыйным парадку, як правіла, накіроўваліся ў заходнюю Сібір.

Святароў каралі больш сурова ў параўнанні са свецкімі асобамі. Іх маглі прысуджаць да катаргі за малазначныя ўчынкі - чытанне маніфестаў, пракламацый і адозваў, хаванне патрыятычнай літаратуры.

З тэрыторыі Літвы і Беларусі на ўнутраныя губерні Масковіі і Сібіры саслалі 338 святароў. У Менскай губерні ў 1804 годзе налічвалася 13 дэканатаў, у якія было аб'яднана 86 парафій і 156 касцёлаў. У 1865 годзе засталося толькі 11 дэканатаў, 80 парафіяльных і 38 філіяльных касцёлаў. З 50 мужчынскіх кляштароў да 1864 года засталося толькі 14, а на прыканцы 19 стагоддзя ў Менскай губерніі застаўся толькі адзін дзейны кляштар. Непасрэдным наступствам паўстання стала ліквідацыя Менскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі ў 1869 годзе.

Амністыя 1871 года не распаўсюдзілася на асобаў духоўнага стану. Некаторыя змены ў лёс духавенства ўнес загад ад 9 студзеня 1874 года, у адпаведнасці з якім святары атрымалі магчымасць пражывання на тэрыторыі ўсей імперыі, за выключэннем Каралеўства Польскага, Літвы, Беларусі і сталічных губерняў. Толькі паводле маніфеста Аляксандра ІІІ ад 15 траўня 1883 года большасць ссыльных святароў змагла вярнуцца на Радзіму.

Кіраўнік краю Мураўёў-Вешальнік, які праславіўся як крывавы кат, як бязлітасны душыцель паўстання Каліноўскага, як вынішчальнік усяго беларускага, прадаўжальнік працэсу русіфікацыі, казаў (ва ўнісон з графам Уваравым): *"Что не смог сделать русский штык, доделает русская школа"*. Яму належыць і такая ўстаноўка: *"В северо-западном крае, так называемый белорусский язык, необходимо свести на нет. Ибо, если этого не сделать, он постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этническую самобытность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя"*. Нажаль, гэтыя ўстаноўкі выконваюцца на Беларусі і ў наш час.

***Ігар Жукоўскі,***
*г. Беразіно.*

# Кніга Алеся Пушкіна і пра Алеся Пушкіна




Кніга рыхтавалася цягам двух гадоў, яна выдадзена да Шостага з'езду беларусаў свету, асобнікі яе перададзены гасцям з'езду і сябрам ТБМ.

Кніга ўяўляе сабой зборнік мастацтвазнаўчых артыкулаў, нарысаў і інтэрв'ю. Укладальніка цікавіла больш за ўсё духоўная творчасць Алеся Пушкіна, яго праца дзеля аднаўлення храмаў.

Мэтай выдання было разбурыць міф пра "скандальна вядомага" мастака, якім ўяўляе Пушкіна частка беларусаў. Нам хацелася, каб гледачы ведалі яго творчасць глыбей, каб паважалі яго як партрэтыста-гісторыка, пейзажыста, аўтара цудоўных краявідаў і нацюрмортаў, якія перадаюць прыгажосць беларускай зямлі, каб ведалі яго роспісы. Творы Пушкіна з'яўляюцца нацыянальнай каштоўнасцю, яны захоўваюцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Літвы, у прыватных зборах у Чэхіі, ЗША, дэманстраваліся ва Украіне, Расіі, Швецыі.

На вялікі жаль, у жыцці самога нашага героя на некаторы момант перамагло не пачуццё хрысціянскай адказнасці, а артыстычныя захапленні.

Мы спачуваем людзям, якія пацярпелі ад пажару на Купаллі ў Бабры. Дзявочая прыгажосць такая ж тонкая і далікатная рэч, як роспіс і з'яўляецца вялікай каштоўнасцю.

Як чалавек і мастак Алесь глыбока перажывае за тое, што здарылася, і раскайваецца ўтым, што парушыў правілы супрацьпажарнай бяспекі. Ён, безумоўна, будзе старацца загладзіць сваю віну як сваімі ўчынкамі, так і творчасцю.

Алесь Пушкін - адзін з шэрагу сучасных беларускіх мастакоў нон-канфармістаў, якія паслядоўна і непахісна адстойваюць у мастацтве ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння, ствараюць гістарычныя рэканструкцыі, вяртаюць да жыцця партрэты выбітных дзеячаў культуры, ваяроў, герояў Полацкага княства, ВКЛ і Рэчы Паспалітай, дзеячаў БНР - насельнікаў старажытнай і сучаснай беларускай дзяржавы.

Яго творчасць працягвае традыцыі беларускіх жывапісцаў XIX стагоддзя - В. Ваньковіча, А. Гараўскага, Ф. Рушчыца, М. Сільвановіча, якія, атрымаўшы фундаментальную адукацыю ў сценах Акадэміі мастацтваў у Пецярбургзе, станавіліся акадэмікамі жывапісу, развівалі традыцыі лірычнага пейзажу, пісалі выдатныя партрэты, стваралі праўдзівыя вобразы герояў свайго часу.

Па велічы задумаў і маштабу дзейнасці праца Пушкіна сугучная ідэям майстроў эпохі Высокага Адраджэння. Роспіс і аздабленне вялікіх паверхняў грамадскіх і культавых памяшканняў, стварэнне вобразу гарманічнага, духоўна і фізічна дасканалага чалавека, спалучэнне натуральнасці выявы з ідэалістычнасцю задумы - гэтыя рысы ўласцівы і нашаму сучасніку Аляксандру Мікалаевічу Пушкіну.

Пушкін - мастак, якому па сілах любыя тэмы і новыя задачы. Ён спалучае ў сваёй творчасці рысы высокага прафесіяналізму, духоўнай шчырасці і няўтольнай прагі наватарства. Яго партрэтная галерэя славутых сыноў Бацькаўшчыны адзначана псіхалагізмам і раскрыццём унутранай велічы і моцы. Такімі паўсталі Францішак Скарына, Сафія Слуцкая, Багуслаў Радзівіл, Вінцэнт Гадлеўскі і іншыя выбітныя асобы...

Аўтары-ўкладальнікі кнігі выказваюць удзячнасць спадарам Любаміру Рэгаку, Аляксандру Мілінкевічу, Іне Кулей за падтрымку гэтага выдання.

***Э. Дзвінская***
***і іншыя аўтары.***

# Ліпень у ТБК Літвы

27 ліпеня ў сядзібе Таварыства беларускай культуры ў Літве (ТБК) на чарговую імпрэзу сабраліся сябры ТБК і госці з Беларусі і Літвы. Прамовы, дыскусіі і песні працягваліся ад 15 да 19 гадзіны.

Роўна 23 гады назад, 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб Незалежнасці Беларусі. Сябар ТБК Алесь Адамковіч у прамове, прысвечанай гэтай гістарычнай падзеі, нагадаў пра тагачасную палітычную сітуацыю ў Беларусі, пра супрацьу камуністычнай бальшыні ў Вярхоўным Савеце, пра мужнасць і мудрасць дэмакратаў і іх поспех, вынікам якога стала прынятая Дэкларацыя. А. Адамковіч таксама даў сваю ацэнку сёняшняга стану незалежнасці Беларусі. З улікам цяперашняй сітуацыі з мовай, нацыянальнай сімволікай, гвалтоўнага пераследу дэмакратычнай апазіцыі і курсам на аб' яднанне з былымі рэспублікамі СССР, даводзіцца канстатаваць, што нацыянальная незалежнасць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай яе страты.

Другая па часе падзея ў гісторыі сучаснай Беларусі - 20-ыя ўгодкі Першага з'езду беларусаў свету. Сябар ТБК В. Акуневіч нагадаў удзельнікам імпрэзы пра той незабыўны час гуртавання, агульнай працы ўсіх нацыянальна-свядомых сілаў у Беларусі і ў замежжы дзеля адраджэння Бацькаўшчыны. Грамадская арганізацыя Згуртавання беларусаў свету (ЗБС) "Бацькаўшчына" ў 1992 г. прапанавала скліцаць сусветны беларускі форум. Ідэя была падтрымана. Быў створаны арганізацыйны камітэт. Старшынямі камітэту абраны прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына" Васіль Быкаў і ад дзяржавы - міністр замежных справаў Пётр Краўчанка. Першы з'езд беларусаў свету адбыўся ў Менску 8-10 ліпеня 1993 г. Ён праходзіў святочна, у оперным тэатры. Усяго 1200 удзельнікаў, з іх 996 дэлегатаў. 255 з далёкага замежжа, 235 з бліжняга замежжа, 506 з Беларусі.

Нельга без хвалявання і ўзрушэння чытаць прамовы ўдзельнікаў з'езду: і тых, хто ў далёкім замежжы столькі дзесяцігоддзяў летуцеў пра Бацькаўшчыну і тых нашых суродзічаў, якія прайшлі выпрабаванні ГУЛАГу, і працягваюць жыць там, у рэгіёнах Расеі, дзе і цяпер іх папракаюць, што яны былі здраднікамі Радзімы. Агульная турбота нашых суродзічаў з далёкага і бліжняга замежжа пра стан мовы ў Беларусі, пра незалежнасць і нацыянальнае адраджэнне. Гэтым праблемам адпавядаюць выніковыя дакументы з'езду. Сярод дакументаў: "Рэзалюцыя аб падтрымцы дзейнасці ЗБС "Бацькаўшчына", "Зварот да Парламенту і Ўраду РБ па ўсталяванні ўсебаковых сувязяў з беларусамі замежжа" і іншыя актуальныя для беларусаў прапановы.

Мінула 20 гадоў. Ужо Шосты з'езд беларусаў свету адбыўся цяпер, 23-24 ліпеня ў Менску. Усяго было 239 дэлегатаў і 95 гасцей з 18 краін замежжа і самой Беларусі. Ад беларусаў Літвы ўсяго 11 чалавек, з іх 4 дэлегаты ад нашага ТБК. Тэмай Шостага з'езду стала "Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі: выклікі і магчымасці". Цягам двух дзён удзельнікі з'езду абмяркоўвалі свае праблемы, дзяліліся поспехамі, выказвалі сваё бачанне адносна далейшага развіцця супрацы з беларускім замежжам. Чарговы раз востра гучала праблема мовы, праблема нацыянальнай ідэнтычнасці. Галоўным вынікам працы Шостага з'езду стала прыняцце дакументаў, якія тычацца беларусаў незалежна ад месца пражывання. Як дэлегат з'езду магу канстатаваць, што большыня выніковых дакументаў у каторы раз паўтарае рашэнні папярэдніх з'ездаў. Гэта стварэнне заканадаўчай і нарматыўна-прававой асновы для ўзаемадзеяння з беларусамі замежжа. Гэта Рэзалюцыі, што беларуская мова - галоўны фактар захавання беларускай нацыі і аб захаванні гістарычна-культурнай спадчыны. Была прынята заява аб акце добрай волі, каб улады Беларусі вызвалілі з месцаў зняволення людзей, якія знаходзяцца там у знак пакарання за свае палітычныя перакананні.





Трэцяя частка імпрэзы ТБК была прысвечана памяці Леваніда Караля. Спадар Леванід на працягу дзевяці гадоў быў актыўным сябрам нашага таварыства. Аб гэтым на імпрэзе дзяліліся ўспамінамі Хведар Нюнька, Андрусь Старавойтаў, таксама спадарыня Зінаіда Кароль - жонка Леваніда. Шмат добрых спраў здзейсніла ТБК у той перыяд, каб аднавіць і захаваць памяць пра беларускую гісторыю Вільні. Леванід Кароль быў ініцыятыўным сябрам і шчырым беларусам. 14-га ліпеня сёлета споўнілася ўжо 15 гадоў як ён памёр. Добрая памяць пра Леваніда натхняе ўсіх тых, хто працаваў на ніве беларушчыны разам з ім, і тых, хто далучыўся да суполкі ТБК пазней.

Апошняя планавая частка імпрэзы была прысвечана 15-ым угодкам Другой канферэнцыі беларусаў Балтыйскага рэгіёну, якую ініцыявала і правяло ТБК. Гэта адбылося ў 1998 г. у Вільні. Адметнасць той канферэнцыі ў тым, што тады адбыўся раскол сярод беларусаў. Раскол па палітычных поглядах. На тых, хто адвярнуўся ад нацыянальных каштоўнасцяў - ідэяў БНР, канстытуцыі, нацыянальных сімвалаў, і падтрымаў новы антыдэмакратычны курс, які пачалі ажыццяўляць уладныя структуры ў Беларусі. І для каго такі курс стаў прымальным. Пра падзеі на той, другой канферэнцыі распавёў Хведар Нюнька. Удзельнікі імпрэзы паглядзе-лі архіўны кіназапіс пра ходу канферэнцыі.

Яшчэ ўдзельнікі імпрэзы прысвяцілі час непланаванай тэме. Госці з Беларусі, якія прадстаўляюць Брацтва Святых віленскіх пакутнікаў, прэзентавалі свае новыя кніжкі, прызначаныя для вернікаў Беларускай праваслаўнай царквы. Тое, што ўсе кніжкі на роднай мове, выклікала зацікаўленне да гасцей і іх рэлігійнай працы ў Беларусі. Ад імя гасцей, якіх было пяць чалавек, выступаў спадар Мікалай Матрунчык.

Удзельнікі імпрэзы атрымалі падарунак ад украінцаў. Сям'я Рамана і Аксаны Ластаўяк - прафесійныя музыкі-спевакі, і мама Аксаны, спадарыня Ірына, ўжо шмат гадоў радуюць нас, беларусаў Віленшчыны, сваім майстэрствам. Яны і на гэты раз свае песні на ўкраінскай мове падабралі з улікам тэматыкі імпрэзы. Як заўжды, ўкраінскія сябры не толькі спявалі для нас, яны актыўна выступалі ў дыскусіях па хвалюючых нас праблемах мовы, нацыянальнага адраджэння, гуртавання і ўзаемападтрымкі. Таму і гэтым разам сям'я Ластаўяк і сп. Ірына былі ўдзячна прынятыя ўдзельнікамі імпрэзы.

*В.а. старшыні ТБК*
***Васіль Акуневіч.***
*Вільня 31 ліпеня 2013 г.*

# Шаноўны прэзыдыюм, шаноўныя дэлегаты і госці !

Ад імя Таварыства беларускай культуры ў Літве вітаю вас і жадаю поспехаў у працы.

ТБК Літвы займаецца захаваннем беларускай спадчыны ў Літве. Ставіць мемарыяльныя таблiцы і помнікі выдатным беларускім асобам, выдае кнігі, а раней і газеты, праводзіць імпрэзы і сустрэчы з беларусамі Літвы і замежжа. Усё гэта робіць самаахвярна невялікая група беларускіх энтузіястаў і патрыётаў. Мы не атрымліваем ні адкуль і ні ад кога дапамогі. Колькасць беларусаў у Літве пастаянна памяншаецца. З 63000 у 1989 г. да 40000 у 2010 г.

Апошнім часам Міністэрства культуры РБ замяніла ў Вільні мемарыяльную таблiцу Янкі Купалы. Мы былі не супраць замены нашай таблiцы, хаця яна зусім задавальняла, але ёсць шмат месцаў і асобаў, якія яшчэ не адзначаны, а вартыя таго. Нам ужо не пад сілу гэта зрабіць. Замест таго, каб мяняць варта было ўшанаваць памяць "Цёткі"-Алаізы Пашкевіч, Францішка Аляхновіча, Рыгора Шырмы (скрадзены барэльеф), Радаслава Астроўскага - 12 год быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, Канстнція Галкоўскага - кампазітара, Якуба Коласа, ды ці мала месц такіх у Вільні?

Варта прыгадаць, што Літва, якая сёлета старшынстве ў Еўразвязе, шырока і на высокім узроўні адзначала сёлета 6 ліпеня ў Вільні - дзень каранацыі Вялікага князя Міндоўга (фактычная каранацыя адбылася ў Наваградку). Прысутнічалі відныя госці з Літвы і замежжа. Дык якія адносіны цяпер паміж нашымі краінамі, калі беларускую дэлегацыю нават не запрасілі на гэтае, таксама беларускае, свята?

Хачу закрануць вельмі важнае пытанне беларускай мовы.

Мне - 85, з якіх 70 гадоў жыву ў Вільні, таму пра падзеі і жыццё на Віленшчыне мне ведама не па чутках. Тут у міжваенны час амаль не чуваць было літоўскай мовы, а самі літоўцы складалі тут пару працэнтаў. У самой Вільні дзейнічалі адна літоўская і адна беларуская гімназіі. Так што старт у нас быў падобны.

Сітуацыя кардынальна памянялася, калі Віленшчына адышла да Літвы. Літоўскай мове цяпер надавалася выключная ўвага. Пачынаючы з канца 1939 года, і падчас нямецкай акупацыі, але асабліва, калі Літва стала незалежнай у 1990 годзе. Быў прыняты закон аб пераходзе на працягу пяці гадоў на літоўскую дзяржаўную мову (дарэчы, у Беларусі быў таксама прыняты закон аб пераходзе на беларускую мову на працягу дзесяці гадоў). Літве не патрэбны быў рэферэндум, каб некаму даказваць патрэбу і важнасць нацыянальнай мовы, бо разумны гаспадар робіць так, як патрабуюць інтарэсы сваёй дзяржавы. Не адбылося ніякіх пратэстаў альбо перашкодаў. Цераз пяць гадоў Вільня загаварыла па-літоўску. Хто не авалодаў літоўскай мовай, губляў сваю пасаду, але такіх было не шмат.

Літоўская мова стала неабходнай і паважанай. Цяпер ужо высокі ўзровень ведання літоўскай мовы стаў фактам таксама ў польскіх ды рускіх школах. Часамі веданне мовы ў іх перавышала ўзровень літоўскіх школаў. Літоўская мова і культура прымусілі сябе паважаць. Цяпер нярэдка нават у беларускіх і рускіх сем'ях пачалі называць сваіх дзяцей літоўскімі імёнамі: Гінтарас, Саўлюс, Лайме і інш. Літоўскае грамадзянства імкнуліся атрымаць відныя дзеячы культуры іншых краін: Мая Плісецкая, Растраповіч, але не ўсім ахвочым гэта ўдавалася атрымаць.

Колькасць літоўцаў у Вільні павялічылася ў дзесяткі разоў. Гэта ўсё заслуга літоўскай мовы, якой цяпер валодаюць і карыстаюцца не толькі інтэлігенцыя, але і рабочыя, бо нацыянальнай мове прыдаецца выключная ўвага, і такая палітыка ўладных структур Літвы.

Нажаль, у Беларусі ўсё наадварот. Мовай пагарджаюць, абразліва выказываюцца нават самыя высокія асобы краіны. А беларусы звычайна гавораць мовай начальства, таму беларуская мова тут у загоне. Яе не пачуеш ні ў парламенце, ні на вуліцы. Таленавітыя беларуская паэты і пісьменнікі не запатрабаваныя, жывуць бедна і вымушаны выдаваць свае творы за ўласныя грошы і мізэрнымі тыражамі па 80-100 экзэмпляраў. Няма ў гарадах беларускіх школаў, дык адкуль яны будуць за мяжою! На пятым з'ездзе беларусаў свету задалі пытанне прадстаўніку Міністэрства асветы "Калі адчыняць беларускамоўны ўніверсітэт ?" Адказ быў, што такое пытанне нават не разглядалася. Значыць гэта крыж на беларускую мову. Але беларуская мова, гэта тое, што можа беларусаў аб'яднаць, зрабіць іх салідарнымі і самаахвярнымі для беларускай справы і дзяржавы.

Сёння ўладамі беларусы замежжа раз'яднаны і падзелены на "чэсных" і "нячэсных"- па меры іх ўгодлівасці беларускім уладам. Мы не хаваем таго, што прытрымліваемся еўрапейскіх дэмакратычных каштоўнасцей і крытыкуем тое, што пярэчыць гэтым прынцыпам. Перажываем, што на працягу 15 гадоў не маем нармальных адносін з нашай Радзімай. Сёння не па нашай віне беларусы ў Літве знаходзяцца ў крытычным становішчы асіміляцыі і знікнення, мы не маем ні аднаго прадстаўніка ва ўладных структурах Літвы, мы кінутыя сваёй дзяржавай. Калі беларуская мова не зойме належнага месца ў грамадскім жыцці Беларусі, то чакае нас згуба не толькі незалежнасці, але дзяржаўнасці і самога беларускага этнасу, бо абараняць яго не будзе каму. На прыкладзе суседзяў бачым, што толькі з нацыянальнай мовай ў школах і святынях можна выхаваць здаровую грамадзянскую супольнасць і нацыю, якая будзе здольнай захаваць, а пры патрэбе абараніць свабоду і незалежнасць сваёй краіны.

Дзякую за ўвагу.

***Хведар Нюнька,***
*(Выступ на 6-м з'ездзе беларусаў свету.)*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:* 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Юля Карчагіна, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.
http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 5.08.2013 г. у 10.00. Замова № 1600.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 4450 руб., 3 мес.- 13350 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.